ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 31 17 жніўня 1995 г.

(2433) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.

ПРЭМ'ЕРА БЕЛАРУСКАГА БАЛЕТА

## СТРАСЦІ ПА ЖЫЦЦЮ

Як ні дзіўна, але так павялося, што здавалася б найвыйгрышныя драматычныя сюжэты гісторыі доўгія гады застаюцца не запатрабаванымі мастацтвам. Дзякуй Богу, часы гэтыя мінуліся, і адзін за другім на падмостках беларускай сцэны з'яўляюцца спектаклі, што ўзнаўляюць старонкі далёкай і слаўнай гісторыі Бацькаўшчыны.

(Заканчэнне на 7-й стар.).



## ПАМЯЦІ Максіма ТАНКА



Памёр Максім Танк... Але амаль немагчыма ўявіць, што больш няма гэтага дужага, добразычлівага, мудрага чалавека. Здаецца, зусім нядаўна быў яго юбілей, калі ў дароўным надпісу на ўласным паэтычным зборніку "Збор калосся" Максім Танк напісаў: "... у трывожны дзень свайго 80-годдзя ад усяго сэрца". І гэта трывога ўжо не праходзіла да самага канца. Трывога і боль за блізкіх людзей, за нацыянальную культуру, за мову, за родную зямлю. Тады ж паэт прапанаваў рэдакцыі нізку вершаў, сярод якіх быў верш "Перад расстаннем", а ў ім радкі:

Да ўсіх расстанняў немінучых
Яшчэ адно мне лёс дадаў --
Расстанне з кнігамі, з якімі
З юнацкіх год я сябраваў
.........................
Таму прашу і завяшчаю,
Калі свой век я дажыву,
Хоць пару беларускіх казак
Пакласці мне пад галаву.

Родныя казкі будуць цяпер нашэптваць Максіму Танку стромкія нарачанскія сосны, пад якімі ён завяшчаў пахаваць сябе побач з маці ў Пількаўшчыне, а апошні шлях Паэта быў абвеяны бел-чырвона-белым сцягам, які хтосьці схіліў у жалобе над белай трунай, якую неслі ад Дома літаратара да аўтобуса.

У сваім развітальным артыкуле Сяргей Законнікаў сказаў пра вялікага творцу і старэйшага калегу:

Пачынаючы з першага паэтычнага зборніка "На этапах" і да апошняга дня, Максім Танк пісаў вялікую кнігу, за радкамі якой стаіць мінулае, сёння і будучыня роднай зямлі, нашага народа. Ён пакінуў беларусам унікальную неацэнную духоўную спадчыну, самабытнае слова, асвечанае высокім талентам, неўтаймоўнай мастакоўскай дапытлівасцю, бязмежнай мудрасцю, безаглядная любоўю і дабрынёю да людзей. Ён жыў паэзіяй, верыў у яе гуманістычную, гаючую сілу.

Смерць Максіма Танка болем адгукнецца і ў сэрцах замежных беларусаў. Разам з Рыгорам Шырмай ён быў сярод стваральнікаў таварыства "Радзіма" і "Голасу Радзімы", часта сустракаўся з суайчыннікамі ў Мінску і за мяжой.

Страта Асобы такога маштабу невымерная. Імя Максіма Танка, яго творчасць занялі пачэснае месца ў беларускай і сусветнай культуры.

Рэдакцыя "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"

### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Спадзяемся, што цяпер нішто не перашкодзіць вам падпісацца на газету "Голас Радзімы" на IV квартал 1995 года. Хочацца верыць, што і тыя, хто вагаўся і не выпісаў "Голас Радзімы" на III квартал бягучага года, не маючы ўпэўненасці, што газета будзе выходзіць, зробяць гэты крок.

Лепш мець гарантаваную падпіску на "Голас Радзімы", чым шукаць яго па кіёсках.

Наш індэкс -- 63854.

Цана падпіскі на квартал -- 9 600 руб.

Нагадваем: падпіска доўжыцца да 31 жніўня.

ЗМРОЧНЫЯ ГАДЫ ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ (МАЙ 1945 - САКАВІК 1953 г.г.).

## НІХТО НЕ ЗАБІЎ У ЗВАНЫ

Па ступені вывучанасці мала які перыяд у гісторыі пасляваеннай Беларусі можа параўнацца з 1945--1958 гадамі. І гэта лёгка зразумець: на іх прыпадаюць доўгачаканае заканчэнне другой сусветнай вайны, нялёгкае, але досыць паспяховае змаганне за адраджэнне народнай гаспадаркі і нарэшце -- смерць Іосіфа Сталіна. Праўда, даследаваўся гэты перыяд, як і ўсе папярэднія ці наступныя за ім, у духу партыйна-бальшавіцкай ідэалогіі, найбольш з мэтай паказаць уяўныя перавагі сацыялістычнага ладу жыцця, якія нібыта на ўсю моц выявіліся падчас аднаўлення разбураных гарадоў і вёсак. Калі ж у ім адбывалася штосьці такое, што не адпавядала, а ў горшым выпадку пярэчыла сацыялістычнаму ідэалу, яно выпадала з поля ўвагі вучоных. Выпала і адна з самых складаных, супярэчлівых праблем таго часу -- праблема нацыянальнага жыцця, у якім аказалася больш дэструктыўнага, адмоўнага, чым стваральнага і пазітыўнага.

У плане нацыянальнага развіцця беларускага народа першыя пасляваенныя гады можна параўнаць з часам веснавой ці восеньскай сяўбы: сееш жыта -- яно і прарасце на тваім палетку. Тое ж атрымаецца, калі кінеш у глебу насенне пшаніцы, аўса, лёну і г.д. Нічога не пасееш -- палетак зарасце пустазеллем, а лета ці восень не дадуць ніякага ўраджаю.

Якую ж культуру, у сэнсе яе нацыянальнага зместу і формы, сеялі ў нас у пасляваенны час і хто яе быў першым, галоўным сяўцом? Зразумела, яго трэба шукаць у першай асобе Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі, бо менавіта гэты орган ужо і перад вайной надзейна прыбраў да сваіх рук увесь аб'ём функцый па вызначэнні шляхоў нацыянальнага развіцця беларускага народа, у тым ліку. і яго роднай культуры. Той жа першай асобай КП(б)Б, а значыцца і першым сяўцом на ніве беларускай культуры быў ураджэнец Кубанскай вобласці, рускі па нацыянальнасці Панцеляймон Панамарэнка. Адукацыю меў інжынерна-тэхнічную і нямала папрацаваў у гэтай сферы вытворчасці. Па волі партыйнага Цэнтра ў Крамлі, а не па выбары камуністаў Беларусі стаў першым сакратаром ЦК КП(б)Б яшчэ ў 1938 г. На гэтай жа пасадзе заставаўся і на працягу двух першых пасляваенных гадоў. Акрамя таго, з 1944 па верасень 1948 г. з'яўляўся старшынёй Савета Народных Камісараў (у 1946 г. перайменаваны ў Савет Міністраў) БССР. Роўных па пасадзе палітыкаў не было яму на Беларусі. У час, калі Панцеляймон Панамарэнка выконваў гэтыя высокія функцыі партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, ЦК УКП(б) прыняў шэраг, як пазней высветлілася, неабачлівых, вельмі шкодных для культуры пастаноў, правядзеннем у жыццё якіх вельмі актыўна займалася і партыйная арганізацыя Беларусі на чале са сваім першым сакратаром. Літаральна ўсе пазіцыі ЦК УКП(б) па пытаннях культуры ім цалкам падтрымліваліся і няўхільна ажыццяўляліся на практыцы. Усё гэта партыйны Цэнтр у Маскве не забудзе і нават на кароткі перыяд (1953—1954 гг.) прызначыць Панцеляймона Панамарэнку міністрам культуры СССР.

(Працяг на 4-й стар.).

*НЕЗВЫЧАЙНЫ БЕЛАРУС XX СТАГОДДЗЯ*

*Сын беларускае зямлі,*
*Юнак з душой паэта,*
*Вы нашу песню праняслі*
*Па ўсіх кутках планеты.*

**Рыгор Барадулін.**

# "БАЦЬКА ГЕНАДЗЬ"

Пачатак гібелі дыктатуры і таталітарызму, "імперыі зла" на пачатку 50-х гадоў даў першы імпульс нацыянальнаму Адраджэнню беларусаў, калі і ўзніклі калектывы Шырмы і Цітовіча, а з сярэдзіны 50-х гадоў пачалі з'яўляцца ў друку іх фундаментальныя, назапашаныя яшчэ ў Заходняй Беларусі зборы родных песень. Іменна з гэтага часу сусветную вядомасць атрымлівае імя высокаадукаванага, таленавітага сына беларускага народа Генадзя Цітовіча.

Са створаным з выдатных народных спевакоў у 1952 годзе Дзяржаўным народным хорам Беларусі ён прайшоў да 1974 года вялікі творчы шлях. Спевакі хору ў канцы жартаўліва падлічылі, што яны ці то 12, ці то 15 разоў аб'ехалі вакол нашай Зямлі.

Першы вялікі поспех быў ужо ў лютым 1955 года на Другой дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве, пасля якога Генадзь Цітовіч атрымаў званне народнага артыста Беларусі.

З гэтага часу пачалася інтэнсіўная канцэртная дзейнасць хору на ўсёй тэрыторыі Беларусі, потым паездкі ў Прыбалтыку, Крым, Сярэднюю Азію, на Украіну, Урал, Каўказ, пазней -- у Польшчу, Францыю, Венгрыю, Балгарыю, Фінляндыю, Румынію, ФРГ, Канаду. І ўсюды вялікі поспех, гром апладысментаў, прызнанне і вызначэнне калектыву як жамчужыны нацыянальнага мастацтва.

На сцэне кіраўніка Цітовіча няма. Непрыкметным рухам, позіркам ён кіруе з залы.

-- Я навучыўся гэтай манеры, -- тлумачыў ён аўтару гэтых радкоў, -- калі назіраў за запявaламі, якія паказвалі ўступ, і за падгалоскамі, якія фіксавалі канцоўку. Магчыма, тут адыграла ролю тое, што я скончыў не дырыжорскі, а музыказнаўча-тэарэтычны факультэт кансерваторыі.

Жаночая група хору выступае і асобна, і ў 1957 годзе атрымлівае дыпломы першай ступені і залатыя медалі ўсесаюзнага і сусветнага фестываляў моладзі ў Маскве.

Не забыў Генадзь Цітовіч і свой заходнебеларускі мужчынскі квартэт "Баян", але цяпер гэта ўжо выдатны (неўзабаве ён становіцца шырока вядомым) жаночы квартэт "Купалінка". На міжнародным фестывалі ў Балгарыі ў 1968 годзе квартэт атрымлівае Вялікі залаты медаль, і ў тым жа годзе мастацкаму кіраўніку Дзяржаўнага народнага хору Беларусі надаецца званне народнага артыста СССР.

Вельмі інтэнсіўная канцэртная дзейнасць, ледзь не пастаянныя гастрольныя паездкі не даюць магчымасці энцыклапедычна адукаванаму музыказнаўцу-фальклярысту заняцца грунтоўнай навуковай дзейнасцю, без якой ён не ўяўляў свайго жыцця. Таму з болем у душы ён прымае ў 1974 годзе рашэнне развітацца са сваім любімым дзецішчам, чаго ніхто тады нават уявіць сабе не мог, бо ўсе лічылі, што без Цітовіча хор не зможа існаваць. Але ён думаў інакш. Калі ў яго спыталі, як ён адважыўся на гэта, Цітовіч адказаў:

-- Гэта было вельмі нялёгкай справай, бо калектыў стаў мне раднейшым за родных дачок. Але ж для кожнага бацькі надыходзіць момант, калі любімае дзіця трэба аддаваць замуж. Ну а "зяця" для хору я сам і падрыхтаваў. Міхася Дрынеўскага лічу сваім вучнем, бо ён працаваў у нас хормайстрам на працягу шасці гадоў. І ўсведамленне таго, што хор трапіць у надзейныя рукі, а я атрымаю магчымасць заняцца навуковай дзейнасцю (у гэты час ён якраз заканчваў працу над другім выданнем сваёй асноўнай працы "Анталогія беларускай народнай песні" -- **В.Л.**), змякчае горыч майго расставання з калектывам.

Вось такі ён, "бацька Генадзь"! І падрыхтаваў, і адышоў своечасова. Знайдзіце, дарагія чытачы, кіраўніка, які б так высакародна зрабіў усё па-людску. І таму словы яго аказаліся прарочымі. "Зяць" Міхась Дрынеўскі апраўдаў надзеі "цесця", паказаў сябе дасканалым майстрам, дастойным пераемнікам свайго вялікага настаўніка і годна ўзначальвае цяпер ужо Дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Генадзя Цітовіча, прадаўжае яго лепшыя мастацкія традыцыі.

"Бацькам Генадзем" як роднага, блізкага чалавека Цітовіча любоўна называлі ў многіх фальклорных, харавых і іншых самадзейных калектывах, бо з 1939 года, пачынаючы з калектыву Вялікага Падлесся, ён іх шчыра апякаў, быў бескарыслівым і высокакваліфікаваным кансультантам. У Азерышчыне і Дзяляцічах, Карэлічах і Любчы, Морачы і Століне, Кажан-Гарадку і Стоўбцах, Тураве ён быў частым госцем і яшчэ ў многіх вёсках, мястэчках і гарадах.

Дзверы яго кватэры, як ён жартаваў, на Казлабродскай, 9 (была Даўгабродская, а цяпер Казлова) не зачыняліся ад "спевакіраўнікоў" фальклорных і харавых калектываў, майстроў. Здзіўляюся, як гэта ўсё спакойна вытрымлівала жонка Вольга Мацвееўна, але з ёю Цітовічу вельмі пашанцавала, і ён яе, сваю Воленьку, бясконца любіў. Яна не толькі стойка вытрымлівала гэта, але і выключна дапамагала маэстра, бо ўсе хатнія клопаты ўзяла на сябе.

Прадметам асаблівай увагі Цітовіча былі таленавітыя кампазітары з народа, якія не мелі адпаведнай прафесійнай падрыхтоўкі. Яшчэ ў Баранавічах у 1939 годзе ён запісаў жамчужыну "Любы зоры залацістыя" Рыгора Галавасцікава. Хутка да яго дабавіліся Пятро Шэўка, Павел Шыдлоўскі, Мікола Вайцяхоўскі і дзесяткі іншых, якіх ён кансультаваў, рабіў нотныя запісы, рэдагаваў, дапамагаў выдаць, атрымаць адукацыю, збіраў на семінары.

Усё ж сапраўдны вучоны Цітовіч разумеў, што галоўнае ў жыцці -- гэта сабраць, даследаваць і выдаць з мелодыямі народныя песні, каб выратаваць іх ад забыцця. І, блаславёны яшчэ ў 1932 годзе славутымі Казімірам Машынскім і Філарэтам Калесай у Хорастава на свой першы запіс, ён да вайны абышоў, праплыў на плытах і чаўнах па ўсёй Заходняй Беларусі і сабраў каля тысячы песень. Але яны, на вялікі жаль, загінулі ў полымі вайны.

Спрабаваў запісваць на фанограф, але спяваць у трубу спевакі баяліся, таму пасля заканчэння кансерваторыі стаў хутка і дакладна, кваліфікавана запісваць на слых (ён казаў "браў на вуха"). Таму спевакоў затрымліваў ненадоўга. Пасля вайны не толькі аднаўляў уласныя старыя запісы, але пашырыў свае вандроўкі на ўсю тэрыторыю Беларусі, наведаў паступова ўсе раёны, стараўся зафіксаваць найбольш характэрныя для гэтай мясцовасці творы ў лепшых узорах ад таленавітых спевакоў. Цэлую кнігу анекдатычных выпадкаў можна было б скласці з яго вандровак: і арыштоўвалі як шпіёна, і гублялі з высокай машыны, і перакульваліся на чаўне. На цвёрдай лаўцы ва "ўсяходзе" (бо ездзілі па пінскіх балотах) майго дзядзькі, цярплівы, так збіў "сядло", што паўдня потым адмочваў яго... Але ўвесь час жартаваў, кпіў з сябе, быў вясёлы, няўрымслівы і высокакваліфікаваны, лёгка вышукваў і запісваў народныя песні. Ужо напрыканцы 60-х гадоў яго збор налічваў каля 3 000 лепшых узораў беларускіх народных песень з мелодыямі. Смела можна сцвярджаць, што Цітовіч і Шырма ў апошні момант зафіксавалі, выратавалі багатую мелодыку беларускай народнай песні. Цяпер мы хоць і запісваем па-ранейшаму многа песенных мелодый, але гэта ўжо крышку спрошчаныя мелодыі, асабліва, скажам, такія складаныя, як жніўныя.

Высокая навуковая кваліфікацыя, эрудыцыя і багатая збіральніцкая практыка давалі Цітовічу магчымасць імгненна пазнаваць і прадумана фіксаваць найбольш цікавыя ў навуковых і каштоўныя ў мастацкіх адносінах песенныя ўзоры. Пры гэтым ён валодаў выдатнай тэхнікай і методыкай запісу музычнага матэрыялу, на слых, хоць у апошнія дзесяцігоддзі для большай хуткасці запісу карыстаўся магнітафонам. Але прызнаваўся, што ўсё ж "браць на вуха" яму цікавей, бо бачыш выканаўцу, адчуваеш яго душу, бачыш яго ці яе вочы. Мне пашчасціла прысутнічаць, калі ён запісваў у апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця. Гэта незабыўныя ўрокі!

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№21, 22, 25—26, 27.**



**НА ЗДЫМКУ: Генадзь ЦІТОВІЧ са студэнтамі на фальклорнай практыцы.**

# СТРАСЦІ ПА ЖЫЦЦЮ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Доўгі час прабыўшы на перыферыі грамадскай увагі яна, гісторыя, выходзіць у цэнтр увагі вядучых мастакоў Беларусі. Успомнім нядаўнія спектаклі ў купалаўцаў, у тэатры "Новая сцэна", у беларускай оперы. Прэм'еру балета кампазітара Андрэя Мдзівані і аўтара лібрэта і харэаграфіі Валянціна Елізар'ева "Страсці" ("Рагнеда") чакалі з нецярпеннем, спадзеючыся ўбачыць грандыёзнае сцэнічнае відовішча, багатае мастакоўскімі адкрыццямі.

І не памыліліся. Музыка Андрэя Мдзівані, узмоцненая фрагментамі ў высокапрафесійным гучанні хору, тэмпераментнай трактоўкай музычнага кіраўніка і дырыжора Генадзя Праваторава адразу ўводзіць нас у свет, поўны варожасці, інтрыг і міжусобіц. Нездарма ж і сам спектакль названы -- "Страсці".

На сцэне вiруюць страсці -- палітычныя, духоўныя, рэлігійныя. Менавіта ў агні тых страсцей спальваецца жыццё гордай полацкай князёўны, той, што на зары свайго юнацтва адмовіла князю Наўгародскаму Уладзіміру "не хочучы, розути робынича, но хочу за Ярополка". Не дараваў наўгародскі князь, сын рабыні, крыўды. Пайшоў на Полацк вайною, спаліў яго, забіў бацьку князёўны, а саму, згвалціўшы на людзях, узяў за жонку.

Гісторыя маўчыць, ці было гэта вялікае каханне Уладзіміра, у далейшым -- Уладзімір Яснае Сонейка, князь Кіеўскі, хрысціцель Русі, або кіравала ім такая ж вялікая крыўда.

Але ж у спектаклі процістаянне Рагнеды і Уладзіміра стала галоўнай лініяй спектакля. Бліскучая харэаграфія Елізар'ева, як заўжды глыбока філасофская, дае магчымасць выдатным нашым танцоўшчыкам Інесе Душкевіч (Рагнеда) і Веніяміну Захараву (Уладзімір) стварыць неардынарныя, шматзначныя, страсныя характары. Асабліва ўражваюць так званыя масавыя сцэны, як заўжды ў Елізар'ева не толькі эфектныя, пяшчотна выразныя, але дакладна нанізаныя на галоўную ідэю твора.

Задумаемся, чаму новы балет беларускіх мастакоў так хвалюе, чаму забываешся на тое, што падзеі спектакля аддалены ад нас у гістарычным часе на некалькі стагоддзяў. Ды таму, што "Страсці" гэтыя па нашаму часу, што спектакль пра нас, аб нашым жыцці, раздзёртым процістаяннем, варожасцю. І галоўны пафас новага твора беларускага балета -- заклік да нас: людзі спыніцеся, не дайце цёмным страсцям загубіць жыццё. Нездарма ў эпіграф спектакля вынесены словы апостала Паўла: "Более же всего имейте усердную любовь друг ко другу, потому что любовь покрывает множество грехов".

**Тамара АБАКУМОЎСКАЯ.**

**Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА.**



# БАГДАНОВІЧ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Класік нашай літаратуры Максім Багдановіч пакінуў пасля сябе не так і шмат твораў, адрасаваных спецыяльна дзеткам. Асаблівае месца сярод іх займае паэма "Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык", напісаная займальна, дасціпна. Нядаўна выдавецтва "Юнацтва" парупілася, каб малышы маглі пазнаёміцца з гэтым цікавым творам. Паэма выпушчана асобнай кніжкай. А выдадзена яна так, што з паэмай-казкай М.Багдановіча з задавальненнем змогуць пазнаёміцца як тыя, хто добра ведае родную мову, так і хлопчыкі і дзяўчынкі, у якіх з засваеннем яе ўзнікаюць пэўныя цяжкасці: тэкст пададзены не толькі ў арыгінале, а і ў перакладзе на рускую мову, зробленым І.Бурсавым.

## ПРАЦУЮЧЫЯ БЕСПРАЦОЎНЫЯ

# АПТЫМІСТЫЧНЫ ПОГЛЯД НА ПЕСІМІСТЫЧНЫ ПРАГНОЗ

Пра тое, што на нашых прадпрыемствах апошнім часам усё часцей і часцей стаяць станкі, ведаюць практычна ўсе. Людзей, якія вымушаны чакаць, калі нешта зменіцца, а пакуль што знаходзяцца ў вымушаных адпачынках, хочацца назваць працуючымі беспрацоўнымі. Сітуацыю, якая зараз склалася ў сферы занятасці насельніцтва, спецыялісты пакуль што катастрафічнай не лічаць. Аднак, ёсць усе падставы думаць, што ў хуткім часе мы будзем гаварыць аб сур'ёзным крызісе. Сёння афіцыйна зарэгістраваны ўзровень беспрацоўя ў цэлым па краіне складае 2 працэнты, аднак, тут гаворка ідзе толькі пра тых, хто сам звярнуўся ў службу занятасці і стаў на ўлік на біржу працы. У той жа час узровень скрытага беспрацоўя адзначаецца 20 працэнтаў, а на некаторых прадпрыемствах гэтая лічба дасягае 50. Толькі ў прамысловасці ў водпуску без захавання зарплаты ці з частковым яе захаваннем зараз знаходзіцца 176 тысяч чалавек, якіх з поўным правам можна лічыць рэзервам заўтрашняга беспрацоўя, паколькі ў Беларусі эканоміка дагэтуль не рэагуе на спад вытворчасці скарачэннем працоўнай сілы -- работы няма, а працоўныя, як вядомыя "мёртвыя душы" працягваюць лічыцца на прадпрыемствах. Як і раней, штучна падтрымліваецца высокі ўзровень занятасці, хаця страты працоўнага часу ў сярэднім па прамысловасці складаюць 17 працэнтаў, а на некаторых прадпрыемствах лічба страт даходзіць да 58 працэнтаў да табельнага фонду працоўнага часу, што, уласна кажучы, ужо дае магчымасць гаварыць пра масавае беспрацоўе. Ды і як інакш можна назваць сітуацыю, калі прадпрыемствы стаяць, рабочыя не працуюць, а заработная плата не выплачваецца па тры-чатыры месяцы? Дарэчы, на Захадзе, калі адміністрацыя прадпрыемства не можа забяспечыць свайго супрацоўніка працай у поўным аб'ёме, ён аўтаматычна атрымлівае права на сацыяльную дапамогу і льготы. У нас жа -- ні дапамогі, ні зарплаты пры захаванні статуса працуючага чалавека.

На пытанне, які для Беларусі максімальна дапушчальны ўзровень беспрацоўя, начальнік аддзела рынка працы Рэспубліканскага цэнтра занятасці насельніцтва Раіса Дымкова сказала, што не так даўно іх арганізацыя з гэтым жа пытаннем звярнулася да вучоных. Аднак канкрэтнага адказу тыя даць не змаглі, спаслаўшыся на прынятую ва ўсім свеце лічбу 5--7 працэнтаў, якія можна лічыць натуральным узроўнем беспрацоўя ў краінах з развітай эканомікай, дзе грамадства можа дазволіць сабе пракарміць частку непрацуючых грамадзян. Але адна справа, калі лішнія працоўныя рукі вызваляюцца ў выніку ўкаранення новых тэхналогій ці структурнай перабудовы эканомікі, і зусім іншая -- калі беспрацоўе выклікана скарачэннем аб'ёмаў вытворчасці і ўсеагульным развалам. У такой сітуацыі і два працэнты ўжо становяцца праблемай.

Зараз, як і ў былыя часы, прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы паведамляюць у дзяржаўную службу занятасці пра свае патрэбы і вольныя працоўныя месцы. Сёння народная гаспадарка можа прадаставіць тым, хто мае патрэбу, 19 тысяч вакансій, на якія прэтэндуюць 112 тысяч беспрацоўных. Увогуле на Беларусі на адно працоўнае месца прыходзіцца шасцёра чалавек, з іх пяцёра -- рабочыя. Што тычыцца інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых, то тут "конкурс" складае 9 чалавек на месца. Рацыянальны ж дысбаланс паміж канцэнтрацыяй свабодных працоўных месцаў і беспрацоўнымі яшчэ больш складаны: у Брэсцкай вобласці на адно вольнае месца прэтэндуюць 21 чалавек, у Мінскай -- 12. 80 працэнтаў ад усяго попыту складаюць рабочыя спецыяльнасці, а сярод прапаноў -- 34 працэнты маюць вышэйшую адукацыю. Акрамя таго, выраслі патрабаванні да якасці працоўнай сілы, паколькі з'явілася магчымасць адбіраць, і ў апошнюю чаргу на працу імкнуцца прымаць жанчын (66 працэнтаў ад агульнай лічбы беспрацоўных, больш за палавіну якіх маюць маленькіх дзяцей). 35 працэнтаў беспрацоўных жанчын -- з вышэйшай ці сярэдняй адукацыяй. Нягледзячы на тое, што Закон аб занятасці абавязвае прадпрыемствы прымаць на працу слабаабароненыя катэгорыі насельніцтва, інваліды і моладзь аказаліся ў вельмі цяжкім становішчы. Прычым, калі раней сяк-так, але складаліся балансавыя разлікі таго, колькі прадстаўнікоў той ці іншай спецыяльнасці ў хуткім часе спатрэбіцца, і хто іх падрыхтуе, то сёння гэтым ніхто не займаецца, і практычна немагчыма сказаць, колькі інжынераў, эканамістаў ці рабочых спатрэбіцца краіне заўтра. Таму і не дзіўна, што сярод маладых беспрацоўных дамініруе ўзроставая група ад 19 да 25 год, сярод якіх прыкладна трэць маюць вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю і прыходзяць на біржу працы адразу ж пасля заканчэння ВНУ, вучылішча ці тэхнікума. Іншымі словамі, узнікае неабходнасць перанавучання ўжо гатовых спецыялістаў. У найбольш нявыгадным становішчы апынуліся жыхары невялікіх гарадоў, дзе існуе адно-два буйныя прадпрыемствы. Ужо сёння ўзровень беспрацоўя ў такіх месцах значна вышэйшы за агульнарэспубліканскія два працэнты і менавіта там можа ў першую чаргу адбыцца масавае вызваленне працоўных.

Рост колькасці беспрацоўных да восені -- працэс традыцыйны і непазбежны. Канчаецца час летніх водпускаў, пачынаюць шукаць працу выпускнікі школ, якія не паступілі ў ВНУ. Аднак, ў гэтым годзе сітуацыя можа ўскладніцца тым, што ўжо зараз відавочна непазбежнасць масавых звальненняў на прадпрыемствах, бо нягледзячы на тое, што прадпрыемствы імкнуцца любой цаной захаваць рабочыя месцы, бясконца трымаць у сябе "мёртвыя душы" яны не змогуць, і пытанне толькі ў тым, колькі яшчэ часу яны будуць штучна ствараць бачнасць занятасці, падтрымліваючы скрытае беспрацоўе.

На пытанне, як і калі гэта можа адбыцца, дырэктар па праблемах занятасці і сацыяльных пытаннях Беларускай навукова-вытворчай асацыяцыі Эдвард Кісель сказаў, што ўжо сёння на буйных прадпрыемствах падрыхтаваны загады аб звальненні лішніх працуючых. Але паколькі Прэзідэнт паабяцаў не дапусціць масавых звальненняў, дырэктары прадпрыемстваў не рашаюцца на такі крок. Тым не менш, на яго думку, пачынаць звальняць людзей трэба было значна раней, калі ў іх яшчэ былі нейкія грошы, ды і сіл мелася болей. Сёння ж трэба зрабіць усё магчымае, каб гэты працэс не аказаўся абвальным і бескантрольным (што, дарэчы, вельмі верагодна, калі прадпрыемствы проста спыняцца). Прычым, у самым выгадным становішчы будуць звольненыя працоўныя тых прадпрыемстваў, якія першымі рашацца на гэтую непапулярную меру: у іх і выбар новых вакансій шырэй, і магчымасцей болей.

Цікава адзначыць, што службовыя асобы, з якімі давялося размаўляць на гэтую тэму, згаджаючыся з тым, што скарачэнне, звальненне і пераразмеркаванне -- дастаткова балючыя і цяжкія працэсы, лічаць іх неабходнымі, і зусім не такімі катастрафічнымі, якімі яны бачацца збоку ў святле фактаў, лічбаў і светаадчування канкрэтнага звольненага. Уласна кажучы, так яно і ёсць: нехта звернецца на біржу працы, некаму давядзецца перакваліфікавацца, нехта зоймецца прадпрымальніцтвам, а нехта будзе працягваць працаваць па спецыяльнасці, але ўжо на самога сябе. Выйсце можна знайсці заўсёды. Асабліва, калі не давядзецца вырашаць гэтую праблему толькі самому.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



**У Беларусі жніво ў поўным разгары. Сёлета калгаснікі збіраюць нават неблагія ўраджаі і віншаванні ад кіраўнікоў дзяржавы. Але разам з тым паступае трывожная інфармацыя, што за апошнія гады гаспадаркі цэлых абласцей не могуць набыць ніводнай сельскагаспадарчай машыны. Усё, як у прыпеўцы, што чытач "Звязды" прыслаў з Івацэвічаў:**

**А ў сельскай гаспадарцы**
**Парк машынны бегаў шпарка.**
**Як да рынку паімчаўся --**
**На запчастачкі распаўся.**

**Таму і не лянуюцца рамантаваць прымяняемыя яшчэ ў 50-я гады конныя запрэжкі з граблямі-валакушамі і іншы дзедаўскі інвентар, як зрабілі гэта ў калгасе імя Суворава Кобрынскага раёна.**

## ВАЙНА: ШТО НАМ РЫХТАВАЛІ НАЦЫСТЫ

# ВЕДАЦЬ І ПОМНІЦЬ

Вопыт барацьбы з партызанскім рухам канцэнтраваўся галоўным чынам вакол дзвюх асноўных праблем:

а) разведкі,

б) метадаў знішчэння партызан.

1. Асаблівы клопат нямецкае камандаванне праяўляла ў пытанні наладжвання назірання за развіццём партызанскага руху: з пункту гледжання яго арганізацыйных форм, ліку груп, іх колькаснага складу, камандавання, узбраення, забеспячэння партызан прадуктамі харчавання, стварэння прадуктовых баз і абмундзіравання партызан.

Рыхтуючыся да ўдараў па партызанскіх базах, немцы вывучалі метады стварэння баз, спосабы збору партызан пасля баёў, арганізацыю партызанскай сувязі. Нямецкі штаб імкнуўся праз разведку ўстанавіць цэлы шэраг іншых каштоўных даных, што тычаць такіх пытанняў, як час і гісторыя ўзнікнення асобных партызанскіх груп, месца і сістэма абучэння партызан, спосабы падтрымання сувязі з фронтам і цэнтральным партызанскім кіраўніцтвам, удзел і роля жанчын і моладзі, стварэнне "партызанскіх раёнаў" і іх межаў, арганізацыя партызанскай разведкі, метады правядзення прапаганды, дыверсій і г. д.

2. Метады знішчэння партызан (пасля папярэдняй разведкі тэрыторыі, сілы і дыслакацыі партызан) складаліся з: а) планавання акцыі з улікам становішча нямецкіх атрадаў, іх колькасці, агнявых сродкаў, сувязі -- у выпадках, калі акцыя планавалася не на адзін дзень, -- забеспячэння харчаваннем і боепрыпасамі; б) баявой тактыкі, што зводзілася да акружэння партызан і поўнага іх знішчэння.

Тут варта заўважыць, што калі на пачатку барацьбы з партызанамі немцы забівалі на месцы ўсіх узятых у палон партызан ці іх сувязных, то з часам у інструкцыях спецыяльна падкрэслівалася неабходнасць правядзення допытаў палонных, каб на падставе атрыманых даных дабіцца поспеху ў далейшым; у асобных жа выпадках слабахарактарных палонных прымушалі служыць праваднікамі.

Воінскія часці, што прымалі ўдзел у барацьбе з партызанамі, падавалі вынікі свайго вопыту ў форме справаздач, што пасылаліся па інстанцыі. Гэтыя справаздачы разглядаліся камандзірамі разведкі палкоў, дывізій, карпусоў, армій і груп армій, акрамя таго, камандаваннем спецыяльных часцей, прызначаных для барацьбы з партызанамі ("Штаб па знішчэнню партызанскага руху"), але перш за ўсё Тайнай палявой паліцыяй. Падставамі для гэтых справаздач служылі штодзённыя сітуацыйныя данясенні, што паступалі адзін ці два разы на дзень ад часцей, якія ўдзельнічалі ў барацьбе з партызанамі. Справаздачы былі кароткімі і сціслымі.

На падставе гэтых справаздач, апрацаваных начальнікамі разведкі, начальнікі штабоў і камандаванне складалі для сябе праз пэўны час "аблічча праціўніка", рабілі абагульняючыя прапановы, выпрацоўвалі інструкцыі, як трэба дзейнічаць, каб знішчыць партызанскі рух у сваім раёне.

25 кастрычніка 1941 года вярхоўнае камандаванне выдала "Дырэктыву па знішчэнню партызан", якая з'явілася пробным каменем у абагульненні вопыту барацьбы з партызанамі, назапашанага на ўсходзе. Гэтая і іншыя дырэктывы і інструкцыі адводзілі многа месца аналізу партызанскага руху (формам і метадам дзеянняў). На гэтай падставе нямецкае камандаванне распрацавала падрабязныя ўказанні, што тычыліся пытанняў знішчэння гэтага руху. Асноўным напрамкам ва ўсіх аперацыях супраць партызан павінна быць старанна падрыхтаваная разведка, пры гэтым галоўны ўпор зроблены на супрацоўніцтва органаў СД і абвера, а таксама расшырэнне сеткі агентаў-здраднікаў.

Усталёўваліся асноўныя метады барацьбы, што зводзіліся да акружэння і знішчэння ці разгрому партызанскіх фарміраванняў. Асобая праблема -- гэта трактаванне партызан-палонных і іх "памочнікаў", а таксама арганізацыя паліцэйскага нагляду над усім насельніцтвам. Усе загады, што выдаваліся раней, і ўся проціпартызанская практыка, як у інструкцыі і 1942 года, так і 1944 года перапоўнены зняважай да міжнароднага права, звычаяў і правілаў вайны, пераканай непавагай да чалавечага жыцця (натуральна, калі размова ішла пра жыццё праціўніка, які трапіў у нямецкія лапы).

Як відаць з прыведзеных дакументаў, правядзенне карных акцый было не выпадковасцю, а добра обдуманымі і арганізаванымі дзеяннямі гітлераўскіх захопнікаў. Яны планаваліся камандаваннем фашысцкага вермахта і праводзіліся ў буйных маштабах падначаленымі ім войскамі самастойна ці ва ўзаемадзеянні з падраздзяленнямі СС і службы бяспекі. Актыўны ўдзел у карных экспедыцыях прымалі франтавыя войскі гітлераўцаў. Яны шырока прымянялі артылерыю, танкі, авіяцыю. Так, з 8 па 26 лютага 1943 года фашысты ўчынілі зверскую расправу над насельніцтвам шэрагу вёсак, размешчаных на паўночны ўсход ад Лунінца. У гэтай аперацыі пад кодавай назвай "Люты" ўдзельнічала 3 нямецкія палкі і 5 асобных батальёнаў. Многія населеныя пункты яны знішчылі ў выніку артылерыйскага абстрэлу і бомбавых удараў з паветра. У час гэтай карнай аперацыі загінула, па прызнанню саміх гітлераўцаў, 12 827 мясцовых жыхароў.

Карныя аперацыі супраць партызан і насельніцтва армейскія часці праводзілі, як правіла, па ўласнай ініцыятыве. Камандаванне групы армій "Цэнтр" у адным са сваіх данясенняў у аператыўнае ўпраўленне генеральнага штаба сухапутных войск паведамляла ў верасні 1942 года, што на рахунку толькі аднаго 59-га армейскага корпуса значылася каля 100 карных аперацый. Адзін з дакументаў камандавання групы армій "Цэнтр" сведчыць, што летам 1942 года ў аператыўным і тылавым раёне групы армій "Цэнтр" запланавана правесці 38 карных аперацый.

Сярод іх аперацыя N 30 праходзіла пад кодавай назвай "Грыф" з 14 па 30 жніўня 1942 года ў трохвугольніку Віцебск--Орша--Смаленск. У ёй удзельнічалі 2 паліцэйскія палкі, 11 батальёнаў 286-й ахоўнай дывізіі, адзін французскі батальён, часці СС і паліцыі, батальён СС Дырлевангера і іншыя падраздзяленні карнікаў.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 25—26, 27, 28,29.**

# НІХТО НЕ ЗАБІЎ У ЗВАНЫ

Працяг.
Пачатак на 1-й стар.).

За час знаходжання Панцеляймона Панамарэнкі на пасадах першага сакратара ЦК КП(б)Б і старшыні СНК (Савета Міністраў) БССР не засведчана, каб ён у час выступленняў карыстаўся беларускай мовай, бо ў належнай ступені не валодаў ёю. Такое ж можна сказаць і аб абсалютнай большасці партыйных і дзяржаўных чыноўнікаў, якія яго акружалі. Па данай прычыне ўся службовая дакументацыя ў ЦК КП(б)Б і СНК (Савеце Міністраў) БССР рыхтавалася П. Панамарэнку і яго канцылярыі толькі на рускай мове, што істотна абмяжоўвала маштабы выкарыстання беларускай мовы ў самых высокіх рэспубліканскіх эшалонах партыйнага і дзяржаўнага кіравання. Гэта негатыўная з'ява з хуткасцю маланкі перакідвалася на апараты абласных, раённых (гарадскіх) партыйных і савецкіх органаў, наркаматаў (міністэрстваў) і падначаленых ім прадпрыемстваў і ўстаноў.

Такі антынацыянальны, крайне небяспечны для беларускага народа моўны рэжым не мог выклікаць якога-небудзь сур'ёзнага пратэсту з боку работнікаў даных апаратаў. Прычын тут некалькі, але самая галоўная, што сярод іх работнікаў меўся вельмі нязначны працэнт людзей, адданых нацыянальнай ідэі. З імі самым жорсткім чынам расправіліся савецкія рэпрэсіўныя органы яшчэ ў 30-я гады. Цудам уцалелыя ад фізічнай расправы людзі паспрабавалі нязддзейсненыя за саветамі нацыянальныя спадзяванні ажыццявіць у зусім неспрыяльны для гэтага час -- пры нямецкім акупацыйным рэжыме. І зноў няўдача, якая сваім працягам мела масавыя ўцёкі нацыянальна свядомай інтэлігенцыі за мяжу. Таму ў пасляваенны перыяд даводзілася не толькі раённыя і абласныя, але нават і рэспубліканскія партыйныя і савецкія органы ўкамплектоўваць такімі кадрамі, ступень нацыянальнай самасвядомасці якіх не давала ім права займаць больш высокую пасаду, чым як начальніка змены, калгаснага ці саўгаснага брыгадзіра.

Пра ўсе дэфармацыі ў моўным рэжыме працы рэспубліканскага, партыйнага і дзяржаўнага апаратаў, усіх абласных і раённых (гарадскіх) органаў улады і кіравання вельмі добра ведалі ў Маскве, таму ЦК УКП(б), Саўнарком (Савет Міністраў) СССР, саюзныя і саюзнарэспубліканскія наркаматы (Міністэрствы) і ведамствы ў масавым парадку пасылалі на Беларусь кадры для заняцця тут розных кіраўніцкіх -- прычым часта вельмі высокіх -- пасадаў, уключаючы нават і тыя ўчасткі, дзе людзі проста павінны былі абавязкова валодаць беларускай мовай, мець цесную далучанасць да нацыянальнай культуры карэннага насельніцтва. Пасылка ж кадраў з Цэнтра падавалася не інакш, як бескарыслівая дапамога беларускаму народу ў хутчэйшым аднаўленні разбуранай за час вайны і фашысцкай акупацыі народнай гаспадаркі. Было б несправядліва адмаўляць ці недаацэньваць такую дапамогу, гэтак жа як і не прызнаць тых негатыўных вынікаў, якія прынесла беларускай культуры і мове перанасычэнне за кошт адкамандзіраваных розных важных участкаў грамадскага жыцця рэспублікі асобамі, што на працы, у прыватных зносінах з людзьмі і ў сям'і моцна прытрымліваліся зусім процілеглых беларускаму ладу нацыянальна-духоўных стандартаў.

Так склалася яшчэ задоўга да разглядаемага перыяду, што ў практыцы партыйных органаў усіх звёнаў вельмі важнае месца заняло вуснае і друкаванае слова. Яго ролі яшчэ большае значэнне надавалася ў пасляваенныя гады. З першых дзён мірнага часу партыя, калі ішла ў масы, гаварыла з імі пераважна толькі па-руску. Беларуская мова больш-менш добра сябе пачувала толькі ў партыйных сродках масавай інфармацыі. Праўда, і тут сустракаліся істотныя хібы і самая небяспечная з іх -- выхад шэрагаў раённых газет заходніх абласцей Беларусі на рускай мове. Тлумачылі такую з'яву нежаданнем многіх людзей чытаць беларускую прэсу. Сярод іх сустракаліся і такія, што заяўлялі пра сваю непрыналежнасць да беларускай нацыі. Прысланыя ў гэтыя раёны партыйныя функцыянеры не разабраліся ці проста не захацелі разабрацца, чаму тамашнія беларусы адмаўляліся ад сваёй нацыянальнасці. А так заяўлялі яны толькі таму, што ў той час не спынялася гаворка аб магчымых пераглядах савецка-польскай дзяржаўнай мяжы, і жыхары некаторых населеных пунктаў лічылі, калі не запішамся беларусамі, дык нашу мясцовасць перададуць пад Польшчу. Такое жаданне і сапраўды магло быць у людзей, бо ім за час вайны ўдалося пачарпнуць нямала аб'ектыўнай інфармацыі аб зусім недэмакратычным ладзе жыцця ў СССР. Лепшага сродку пазбегнуць яго, здавалася, не існавала, як перайсці да Польшчы. Па загаду І. Сталіна і сапраўды ёй перадалі значную частку беларускіх зямель, але якраз не тую, дзе газеты замест беларускай мовы выдавалі на рускай. Паступова людзі згубілі ўсялякую надзею адысці са сваёй бацькоўскай зямлёй да Польшчы, але партыйныя і савецкія органы, прысланыя з Расіі журналісты так прызвычаіліся да выдачы мясцовых газет на рускай мове, што не дапускалі аніякай гаворкі пра яе замену на беларускую.

Было б памылкаю заяўляць, што партыя зусім нічога не рабіла хоць па самым сімвалічным культываванні беларускай мовы ў грамадскім жыцці рэспублікі. Часам і ў ім адбываліся такія падзеі, што міжволі штосьці пазітыўнае патрабавалася сказаць -- радзей жа зрабіць -- і пра беларускую мову. Такая патрэба часцей за ўсе ўзнікала, калі ў краіне адзначаўся юбілей якіх-небудзь савецкіх святаў, да прыкладу 30-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі, і трэба было народу паказаць "вялікія дасягненні" бальшавіцкай партыі ў галіне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Менавіта ў чэрвені месяцы 1947 г., калі ўжо некалькі месяцаў паспеў пабыць на пасадзе першага сакратара ЦК КП(б)Б Мікалай Гусараў (таксама прысланы Масквою), гэты орган прымае пастанову, у якой прапанавалася "партыйным і савецкім работнікам, лектарам і прапагандыстам, навуковым работнікам, выкладчыкам і іншым прадстаўнікам інтэлігенцыі, якія валодаюць беларускай мовай", часцей выступаць на ёй з лекцыямі і дакладамі. Як вынікае з прыведзеных слоў, партыя ўсё ж прапаноўвала, а не абавязвала, і сваё пажаданне выкарыстоўваць у агітацыйна-прапагандысцкай працы беларускую мову адрасоўвала толькі тым, хто ёю валодаў. Такіх не дужа багата было, і, напэўна, яшчэ менш было тых, хто пажадаў бы выкарыстаць гэтую даволі рэдкую на той час уступку партыі беларускай мове. Ужо зусім не тая, як гаварылася вышэй, была беларуская інтэлігенцыя. Куды большую прастору далі камуністы рэспублікі беларускай мове ў пісьмовай прапагандзе. Прычым заслуга тут не столькі іх, колькі партыйнага Цэнтра ў Маскве. Апошнім ставілася задача забяспечыць выпуск твораў класікаў марксізму-ленінізму, кароткага курсу "Гісторыі УК(б)" на нацыянальных мовах усіх без выключэння саюзных і аўтаномных рэспублік, што вымушаны быў безагаворачна падтрымаць і ЦК КП(б)Б. Аднак ні ў якім разе нельга перабольшваць значэнне такога фактару для беларускай мовы, таму што выданая на ёй марксісцка-ленінская літаратура практычна заставалася незапатрабаванай, паколькі ўсе прадметы грамадазнаўчага цыклу чыталіся ў тэхнікумах і інстытутах толькі на рускай мове. Па гэтай прычыне надрукаваным творам на ёй аддавалі перавагу і студэнты, і выкладчыкі.

Інакш, як толькі зыходзячы з моўнай практыкі, што склалася ў партыйна-дзяржаўным, адміністрацыйна-гаспадарчым жыцці, не маглі ладзіць сваю працу інстытуты і тэхнікумы рэспублікі. Вайна і фашысцкая акупацыя, відаць, выпетрылі з галоў партыйных функцыянераў, кіраўнікоў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў змест прынятай у студзені 1941 г. Бюро ЦК КП(б)Б пастановы "Аб вывучэнні беларускай мовы ў ВНУ, тэхнікумах і школах БССР", у якой мелася нямала каштоўных прапаноў аб тым, як прытармазіць, а затым мо хоць збольшага ўмацаваць пазіцыі роднага слова беларусаў у сферы адукацыі. Калі зыходзіць з духу гэтай пастановы, дык цяпер педагагічныя калектывы інстытутаў і тэхнікумаў, амаль цалкам выключыўшы беларускую мову з навучальнага працэсу, дапусцілі самае грубае парушэнне перадваенных установак ЦК КП(б)Б у галіне моўнай палітыкі ў дачыненні да даных тыпаў устаноў. Паколькі ж кіраўнікоў такіх калектываў ніхто не толькі не асудзіў, але нават і не паправіў, дык ёсць усе падставы меркаваць, што сама партыя цяпер падзяляла такія непаважлівыя адносіны да беларускай мовы ў вышэйшай і сярэдняй школе.

Да моўнай практыкі разглядаемых тыпаў навучальных устаноў вельмі ўважліва прыглядваліся педагагічныя калектывы агульнаадукацыйных школ, асабліва гарадскіх, якія на абсалютную большасць сваіх выпускнікоў глядзелі як на верагодных абітурыентаў інстытутаў і тэхнікумаў. У такіх умовах, заканамерна, што руская мова ацэньвалася і настаўнікамі, і вучнямі як самы прэстыжны ў агульнаадукацыйнай школе прадмет, а веды па ім, як найбольш патрэбныя на перспектыву. Педагогі прыкладалі велізарныя намаганні, каб школьнікі і беларуска- і рускамоўных агульнаадукацыйных школ добра ведалі рускую мову, як базавы іспыт пры паступленні ва ўсе без выключэння тыпы вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Аб тым, як выкладаецца руская мова ў школах, вельмі цікавілася інспектура органаў народнай адукацыі. Пры любой нагодзе лічыў неабходным падкрэсліць ролю гэтай мовы і міністр народнай асветы БССР Іван Ілюшын. Не прамінуў ён такой магчымасці і ў час правядзення 15 жніўня 1951 г. ў Мінску рэспубліканскага семінару выкладчыкаў беларускай і рускай моваў, сказаўшы: "Руская мова з'яўляецца другой роднай мовай для ўсіх народаў, якія жывуць на тэрыторыі Савецкага Саюза. Усё гэта вызначае месца і значэнне курса рускай мовы ў школах усіх народаў нашай краіны". Акрамя такога выразнага падкрэслівання непараўнальна вялікай ролі рускай мовы, здзіўляе, з якой смеласцю наш міністр асветы ўзяў на сябе права гаварыць аб гэтым ад імя ўсіх савецкіх народаў.

Характэрная для пасляваеннага часу высокая мабільнасць насельніцтва прычынілася да кальcкаснага росту прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў сярод карэнных жыхароў саюзных рэспублік. Кожная з іх, зыходзячы з перспектыў нацыянальнага развіцця, лічыла за правіла, каб родная мова яе карэннага насельніцтва вывучалася ў якасці звычайнага абавязковага прадмета і ў рускамоўных агульнаадукацыйных школах, што не заўсёды з прыхільнасцю сустракалася тымі, хто па розных прычынах пакінуў радзіму і абраў тую ці іншую рэспубліку новым месцам свайго сталага жыцця. Самую ж негатыўную пазіцыю да вывучэння нацыянальных моваў у школах занялі вайскоўцы, служба якіх у той ці іншай рэспубліцы магла насіць і часовы характар. Зразумела, да арганізацыі навучання іх дзяцей нацыянальным мовам трэба было падыходзіць педагагічна, карэктна. І многа дзе гэтага прынцыпу прытрымліваліся, аднак з кожным годам даная праблема набывала ўсё больш абвостраны характар, бо да вайскоўцаў не супраць былі далучыцца яшчэ і іншанацыянальныя цывільныя сем'і. З найбольшай сілай гэта праяўлялася ў рэспубліках, нацыянальныя мовы якіх нічога агульнага не мелі з рускай, адносіліся да зусім розных груп. Але не ўдалося ўхіліцца ад канфліктных сітуацый з бацькамі і Беларусі, хаця яе мова і руская з'яўляюцца блізкароднаснымі і паміж іх носьбітамі практычна не існуе сур'ёзнага моўнага бар'еру, асабліва пасля рэформы беларускага правапісу ў 1933 г. Авалодаць рускамоўнаму школьніку беларускай мовай у дзесяткі разоў лягчэй, чым любой неславянскай мовай.

Накшталт таго, як і ў іншых саюзных рэспубліках, і ў нас першымі паказалі антыпедагагічны прыклад вызвалення сваіх дзяцей ад вывучэння беларускай мовы рускамоўныя сем'і з ліку ваеннаслужачых, якіх неўзабаве актыўна падтрымалі прысланыя ў наш край для заняцця высокіх прэстыжных пасад партыйныя і савецкія функцыянеры, кіраўнікі адміністрацыйна-гаспадарчых органаў, розныя групы інтэлігенцыі, у т.л. навуковай і мастацкай. Калі ў першай катэгорыі рускамоўнага насельніцтва мелася хоць якая-небудзь прычына паводзіць сябе падобным чынам (часовае знаходжанне на тэрыторыі Беларусі), дык тры апошнія, атабарыўшыся ў нашым доме на сталае жыццё, проста абавязаны былі самі і іх дзеці з павагай ставіцца да духоўных традыцый новай для іх радзімы, вывучыць беларускую мову, без чаго ніколі не палюбіш яе. Вялікі мінус у паводзінах усіх прадстаўнікоў гэтых катэгорый імігрантаў у тым, што яны не ўбачылі ў адлучэнні іх дзяцей ад беларускай мовы, а значыцца і ад беларускай культуры ў цэлым фактару расколу школьнай моладзі па нацыянальна-моўнай прыкмеце. Вось якую адмоўную характарыстыку праз шмат гадоў даў гэтай шкоднай антыгуманнай, антыінтэрнацыяналістычнай з'яве рускі па нацыянальнасці Уладзімір Кармілкін, які з 1945 г. стаў жыць у Мінску, куды накіравалі на службу яго бацьку-афіцэра. Вызваленне ад вывучэння баларускай мовы "накладвала адпаведны адбітак на адносіны дзяцей афіцэраў да беларускай культуры і беларусаў-школьнікаў. Урокі беларускай мовы мы прагульвалі на дварэ. Аб самой мове ішла гаворка, што яна брыдкая, грубая, -- не параўнаць з украінскай, не тое што з расійскай. Беларусаў абзывалі бульбашамі, насміхаліся над іх вымаўленнем. Школа не давала магчымасці такім, як я, вывучаць мову, сеяла ў душах дзяцей зерні вялікадзяржаўнага шавінізму. Цяпер я разумею, чаму такое адбывалася: каб паказаць, што беларусы -- гэта адно, а рускія -- зусім іншае. Я рос і наіўна думаў, што на галаву вышэй за кожнага беларускага хлопчыка".

Але самая вялікая трагедыя распачалася тады, калі негатыўнае стаўленне многіх рускамоўных сем'яў да беларускай мовы пажадалі зрабіць для сябе нормай і некаторыя бацькі-беларусы, відаць, зусім не разумеючы, што з цягам часу гэта можа набыць вельмі масавы, а значыцца і пагражальны для ўсёй беларускай нацыі характар. Першымі, як і трэба было чакаць, такі прыклад паказалі беларускія сем'і, у якіх ужо хто-небудзь з бацькоў, а не дык абодва займалі высокія пасады ў партыйна-дзяржаўным, адміністрацыйна-гаспадарчым апаратах. На іх з зайздрасцю паглядалі чыноўнікі менш высокіх сацыяльных рангаў і сёе-тое рабілі ў гэтым плане. Праўда, на пачатку 50-х гадоў вызваленне бацькамі-беларусамі сваіх дзяцей ад вывучэння роднай мовы не набыло масавага характару, што ніколькі не зніжае небяспекі падобнага роду з'явы. Галоўнае, што ёй быў пакладзены пачатак, астатняе ўжо абяцаў дарабіць час.

З мэтай хутчэйшага і больш якаснага авалодвання дзецьмі адзінай патрэбнай для іх рускай мовай бацькі-беларусы, што здрадзілі нацыянальна-духоўным традыцыям свайго народа, пайшлі на свядомае выкараненне роднага слова на сямейна-бытавым узроўні. Так у рэспубліцы і сярод саміх беларусаў пачалі фармавацца маладыя пакаленні, якія не валодалі, а таму, як вынік, і не паважалі родную мову. Статыстыка не распрацавала такіх даных, але, думаецца, што і са ста тысяч беларускіх юнакоў і дзяўчат, якія па волі бацькоў не вывучалі ў школе роднай мовы, наўрад ці знойдзеш хоць аднаго празаіка ці паэта, які пісаў бы свае творы па-беларуску. Рускамоўная агульнаадукацыйная школа горада пераўтваралася ў сур'ёзны тормаз развіцця беларускага этнасу. Сёння шмат хто з тых, хто былі вызвалены ад наведвання заняткаў у школе па беларускай мове і, значыцца, не валодаюць ёю, займаюць высокія, прэстыжныя пасады ў грамадстве і, не адчуваючы асаблівай прыхільнасці да духоўнай спадчыны роднага краю, самым негатыўным чынам уплываюць на ход яго нацыянальна-культурнага Адраджэння. Пустазелле, што было высеена і дало дружныя ўсходы на ніве нашай адукацыі ўжо пазней, моцна заглушае ў наш час нацыянальна-культурныя пасевы, якія займаюць пакуль што мізэрную плошчу на абсягах нашага краю.

У той складанай моўнай сітуацыі на Беларусі не знайшлося ні празорлівага палітычнага дзеяча, ні таленавітага вучонага, які мог бы прадбачыць, да чаго немінуча прыйдзе беларуская нацыя, калі агульнаадукацыйныя школы гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, усе вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы незалежна ад тэрыторыі свайго знаходжання рыхтавалі маладыя пакаленні, не абапіраючыся на нацыянальныя культурнамоўныя традыцыі. А не было такіх палітыкаў і навукоўцаў, паўтаруся, таму, што красу беларускай інтэлігенцыі ледзь не цалкам вынішчылі ў 30-я гады, а многія з тых, што засталіся ў жывых, падаліся ў эміграцыю. Будучы не ў стане правільна асэнсаваць сутнасць міжнацыянальных адносін на Беларусі, асабліва іх культурнамоўны аспект, вучоныя адмяжоўваліся апраўданнем, усхваленнем усяго таго, што адбывалася ў яе жыцці. Сярод іх не знайшлося ніводнай асобы, якая прыняла б удзел у разгорнутай у 1950 г. па ініцыятыве рэдакцыі газеты "Праўда" на яе старонках дыскусіі па праблеме мовазнаўства, у час якой закранаўся і пытанні сацыяльнай ролі нацыянальных моваў, г. зн. той ролі, дзе беларуская мова зусім не па волі сваіх носьбітаў пачала пазіцыю за пазіцыяй здаваць рускай мове, пазбаўляючы сябе гэтым самым шчаслівай перспектывы.

Нічым не абгрунтаванае выключэнне беларускай мовы з службовага справаводства партыйна-дзяржаўных, адміністрацыйна-гаспадарчых органаў, аўдыторый інстытутаў і тэхнікумаў, класаў большасці гарадскіх агульнаадукацыйных школ была ўспрынята як падстава паступаць такім чынам з ёю і ў іншых сферах грамадскага жыцця, не выключаючы і самой духоўнай культуры. Калі б не існавала такой вялікай зняваг і да роднага слова беларусаў у самых высокіх партыйна-дзяржаўных інстанцыях, нікому б не прыйшла ў галаву думка стварыць у толькі што вызваленым ад нямецкіх захопнікаў самым заходнім беларускім горадзе Брэсце рускі абласны драматычны тэатр. У гэтым горадзе, насельніцтва якога такі доўгі час жыло ва ўмовах жорсткай паланізацыі, куды большая патрэба мелася ў развіцці беларускага, чым рускамоўнага тэатра, таму заснаванне апошняга можа разглядацца ў якасці аднаго з яскравых фактараў дэбеларусізацыі культурнага жыцця берасцейцаў, якія яшчэ і пасёння не маюць свайго нацыянальнага тэатра.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"




## 3

Раніцай мяне разбудзіла малодшая зь сясьцёр Трафіды -- Янінка. Гэта была дзівосная дзяўчынка; мела гадоў 12, але выглядала паважнай, нібы дарослай. Часам яна задавала такія нечаканыя пытаньні, што цяжка было адразу знайсьці адказ.

-- Хадзіце сьнедаць, бо сонейка ўжо шчыруе! -- зьвярнулася да мяне.

Я папрасіў яе, каб прынесла ручнік і мыла. Затым пайшоў агародамі да рачулкі. Дзяўчынка пацягнулася за мной.

-- Ідзі дахаты... Я зараз прыйду...

-- А я тут пасяджу сабе... Я ня буду глядзець... Гэта мяне ўвогуле не цікавіць... Юзік мяне ніколі ня гоніць... Гэта нядобра -- крыўдзіць меншых.

-- Сядзі, сядзі... Якая ты яшчэ неразумная!

-- Гэта і добра. Каб усе былі мудрымі, дык павар'яцелі б.

Пакінуўшы дзяўчынку пад вярбой, я пайшоў уніз, па плыні рэчкі. Выкупаўся і вярнуўся назад. Янінка дрэпала побач. Праз хвіліну я пачуў:

-- Гэлька казала, што вы бедны.

-- Чаму?

-- Бо ня маеце ні мамы, ні брата, ні сястры...

-- Але ў мяне ёсьць Юзік.

-- Ну так... Але сястры ня маеце!

-- У мяне ёсьць ты.

Хвілінку падумаўшы, сказала:

-- Але вы мяне не кахаеце!

-- Бо ты малая і неразумная... Калі вырасьцеш, буду кахаць цябе... Ды і не я адзін, а яшчэ шмат хлопцаў.

Памаўчаўшы, нечакана прагаварыла:

-- Я начыхаць хацела на іх!

Гэты выраз яна, напэўна, чула ад старэйшых дзяўчат.

У пакоі мяне чакала Гэля -- старэйшая з сясьцёр Юзіка, досыць ладная васемнаццацігадовая дзяўчына, бландзінка. Яна была поўнай процілегласьцю Янінкі: тая ніколі не сьмяялася, а Гэля пры кожным выпадку залівалася галасістым сьмехам да сьлёз, часам беспадстаўна.

Гэля прынесла мне гарбаты ў чайніку, хлеб, масла і вясковы сыр.

-- Калі ласка, сьнедаць. Я чакала пана, бо хачу ісьці ў сад.

-- А дзе Юзік?

-- Пайшоў у горад*. Зараз вернецца. Загадаў не будзіць пана. Але як гэта можна: столькі часу не есьці!

Неўзабаве Гэля выйшла ў сад, а я застаўся ў памяшканьні зь Янінкай. Піў гарбату, дзяўчынка ж залезла на канапу, падкурчыла ногі і, упершыся далонёй у шчаку, упарта ўзіралася мне ў твар.

-- Чаго так углядаешся?

-- Пан падобны на зайца.

-- На зайца?

-- На малога зайца... Я бачыла, як ён еў капусту... Юзік злавіў яго і прынёс. Ён варушыў мордачкай таксама, як пан...

Янінка пачала паказваць носам і шчокамі.

-- А ты падобна на сароку.

-- Няўжо?..

-- Так. Сарока сядзе на плоце і... галоўкай улева, галоўкай управа -- за людзьмі цікуе.

-- Не, гэта не так. Яна не цікуе.

-- А што яна робіць?

-- Яна "камбінуе".

-- Што камбінуе?

-- Усялякія рэчы. Хіба я ведаю. Я чула розныя апавяданьні, як сарокі між сабой пра людзей балбочуць.

Маці паклікала Янінку на кухню, а я застаўся адзін. Хадзіў узад і ўперад па вялікім пакоі. Перад сабой у вакне я бачыў, як па вуліцы доўгай, часам у некалькі радоў, шарэнгай цягнуцца сялянскія вазы. Прыгадаў, што сёньня ў мястэчку кірмаш.

Я закурыў папяросу і ўсеўся на крэсла ля вакна, якое ад саду аддзяляў вузкі пераход на двор. Я бачыў, як Гэля абірала яблыкі, стоячы на прыстаўленай да яблыні драбіне, і складвала іх у вялікі кош, які трымала перад сабой, абапёршы яго на прыступку. Доўга назіраў за ёй праз вазоньніцы расстаўленых на падваконьніку кветак.

Пачуў, як фортка ў браме адчынілася. Я падумаў, што гэта Юзік вяртаецца дахаты. Прыціскаючыся тварам да шыбіны, выглянуў на падворак. Убачыў там мужчыну гадоў 32, які крочыў па двары ў цёмнасінім ґарнітуры, лакерках, белым, з палакіраваным брыльком, картузе. У руцэ ён трымаў ляску, якой пры хадзьбе пастукваў па нагавіцах. Меў вельмі правільны твар.

Яго ўпрыгожвалі чорныя вусікі, але псавалі вочы, якія хутка бегалі ва ўсе бакі.

"Што за цаца?" -- падумаў я.

Тады я не здагадваўся, што гэты чалавек у будучым зробіць шмат прыкрых спраў мне і маім сябрам.

Зь нейкай камічнай грацыяй, адначасова галавой, картузам і ляскай незнаёмы схіліўся перад Гэляй і штосьці сказаў. Дзяўчына павярнула да яго галаву, і яе твар расквітнеў вясёлай усьмешкай... Мне зрабілася прыкра. Хоць ня быў закаханы ў Гэлю, але палюбіў яе як сястру свайго сябра і як сімпатычную дзяўчыну.

Незнаёмы ўвайшоў у сад і, стоячы каля драбіны, нешта гаварыў Гэлі. Яна сьмяялася, ківаючы галавой, якую ўпрыгожвала вялікая доўгая каса, штосьці адказвала яму.

"Буркуюць галубкі!" -- амаль са злосьцю падумаў я.

У нейкі момант заўважыў, што незнаёмы, падняўшы ўгару руку, правёў далоняй па лытцы дзяўчыны. Мне зрабілася горача. Я ўбачыў, як Гэля хутка зіркнула на вокны хаты і пасьля саскочыла з драбіны. Яна стаяла з чырвоным тварам і нешта хутка казала свайму кавалеру. Я не заўважыў, каб яна на яго разгневалася: напэўна, рабіла яму вымову за "нетактоўнасьць", а магчыма, і за... неасьцярожнасьць?

Гэля з кошыкам яблыкаў накіравалася да хаты, а яе залётнік, узяўшыся ў бакі, з усьмешкай глядзеў ёй усьлед. Пасьля з размаху працяў паветра ляскай і рушыў да брамы.

Я пачаў хадзіць па пакоі. Затым, падышоўшы да вакна, якое выходзіла на вуліцу, убачыў, што мужчына з ляскай стаіць на процілеглым баку вуліцы і аглядае мінаючыя яго вазы. Тады ж я ўбачыў Юзіка, які, сьпяшаючыся, ішоў па вуліцы. Мужчына з ляскай падаўся насустрач. Яны прывіталіся і некалькі хвілін размаўлялі. Потым разьвіталіся. Юзік пачаў перасякаць вуліцу, кіруючыся да сваёй хаты.

Ён зайшоў у памяшканьне.

-- Ужо падняўся?

-- Даўно.

-- Я крыху затрымаўся. Клопаты з жыдамі! Забраў у іх грошы за работу і аддаў хлопцам... Заўтра ў дарогу. Нам падрыхтоўваюць тавар...

Ён выняў з кішэні дзьве залатыя дзесяцірублёўкі і падаў мне.

-- Трымай два гузікі... Гэта твой першы заробак... Плюнь на шчасьце!..

Я ўзяў грошы. Дзесяць рублёў хацеў пакінуць Юзіку, каб той аддаў сваёй матцы на маё ўтрыманьне: бо жыў і харчаваўся разам зь імі, але ён не пажадаў прыняць. Адказаў, што ўсё ўжо дамоўлена і мы будзем рахавацца пазьней, калі болей зараблю.

Потым я запытаўся ў Юзіка пра мужчыну з ляскай, якога бачыў разам зь ім на вуліцы. Юзік расьсмяяўся.

-- Гэта, браце, нумар!.. Адкуль яго ведаеш?

-- Ня ведаю зусім.... Бачыў толькі, як размаўляў з табой...

-- Гэта Гэлькін нарачоны... Не падабаецца ён мне, але дзяўчына ў яго ўтрэскалася... Што з бабай зробіш?..

-- Ён таксама перамытнік?

-- Так. Гэта Альфрэд Алінчук. Іх пяць братоў: Альфрэд, Альбін, Адольф, Альфонс і Амброжы. Усе на "А". І прозвішча на "А" -- Алінчукі. За граніцу ходзяць толькі адны. Са зброяй ходзяць... Перамытнікі добрыя, але хлопцы дрэнь. Задзіраюць насы, халеры, і іншых хлопцаў за нішто маюць! У вялікіх паноў гуляюць, а ногі дзёгцем сьмярдзяць. Іх дзед смалакурню меў, а бацька дзёгцем і вупражжу гандляваў... Ну, няхай іх сабака задзярэ. Ідзём на рынак. Трэба ж табе боты купіць!

Я ўзяў шапку, і мы выйшлі з памяшканьня на вуліцу.

Дабраліся да велізарнага, як вокам сягнуць, пляца, застаўленага вазамі. Сярэдзіну рынка займаў вялікі аднапавярховы прастакутнік з крамаў. Па краях пляца таксама былі жыдоўскія крамкі, чайныя, заезджыя двары і рэстараны. Недалёка ад крамак знаходзіліся будны вандроўных гандляроў і шаўцоў. Мы зь цяжкасьцю пракладвалі сабе дарогу ў шчыльным натоўпе.

Над усёй плошчай можна было б павесіць агромністую харугву Бахуса. Пілі ўсе. Пілі ўсюды. Пілі стоячы, лежачы, седзячы. Пілі на вазах, паміж вазамі і пад вазамі. Пілі мужчыны і жанчыны. Маткі паілі малых дзяцей, каб яны пазабаўляліся на кірмашы; паілі і немаўлят, каб тыя ня плакалі. Бачыў нават, як, задзёршы ўгару шчэлепы, п'яны селянін уліваў у конскае горла гарэлку з бутэлькі: вяртаючыся дахаты, ён хацеў пафарсіць перад усім "сьветам" хуткай яздой.

Праз нейкі час Трафіда завёў мяне ў будан да шаўца. Прывітаўшыся з гаспадаром, ён сказаў:

-- Патрэбны боты. Але патрэбны, разумееш, каб ціп-топ і першы клас!.. Залаты тавар, залатая работа! Бо гэта для залатога хлопца за залатымі інтарэсамі хадзіць!

-- Добра, -- адказаў шавец. І, не здымаючы з латка боты, дастаў з-пад прылаўка куфэрак. Адтуль выцягнуў пару хромавых ботаў.

-- Лепшых і ў Вільні не зробяць! Толькі ці падыдуць!

Я прымераў да нагі. Былі трохі велікаватыя, але Юзік параіў цесных ня браць, бо надыходзіць зіма і можна будзе накручваць тоўстыя анучы.

-- Колькі просіш за скокі? -- запытаўся Трафіда ў шаўца.

-- Пятнаццаць рублёў.

Юзік засьмяяўся.

-- Бачыш, Уладзік: залатое дно. Усё ўсюды за даляры і золата. Канада, пся крэў! Бутэлька гарэлкі каштуе сярэбраны рубель, пляшка сьпірытусу залаты рубель, а за гэтыя "колы" пан майстар жадае пятнаццаць залатых хрусьцікаў. І так кругом!

Боты мы старгавалі за дзесяць рублёў і адзін даляр. На дадатак пакінулі шаўцу мае старыя атопкі.

Задаволены Юзік аглядаў мае ногі.

-- Аматарскае мастацтва, пся крэў! Сам англійскі кароль такіх колаў не мае!.. Можа, яшчэ штосьці хочаш купіць?

-- Не.

-- Ну і добра. Наступным разам купім табе гарнітурчык эфэф. Прыбярэшся, як сам граф! Тут ужо я пастараюся! А боты трэба пакрапіць... на шчасьце і каб добра насіліся! Ідзём да Гінты!

Мы абмінулі дзвюх дзяўчат, якія павольна крочылі каля латкоў з таварамі. Яны лускалі семкі і сплёўвалі лушчыньне ва ўсе бакі. Адна была ў чырвонай сукенцы і зялёнай хустачцы на галаве. Другая -- у зялёнай сукенцы і жоўтай хустачцы. У руках несьлі вялікія скураныя сумкі з бліскучымі нікеліраванымі замкамі. Дзяўчаты занадта сьмела, амаль з выклікам, зірнулі на нас.

-- Гэльцы і Маньцы нашае найніжэйшае ўшанаваньне! -- весела азваўся да іх Юзік.

-- Нашых два!.. -- адрэзала адна.

-- Пашмараваньні, -- дабавіла другая.

-- Што за яны? -- запытаўся я ў Трафіды.

-- Перамытніцы. Гэлька Пудзель і Маня Дзюньдзя.

-- Дык і жанчыны ходзяць з кантрабандай?

-- Яшчэ як! Некаторыя лепей фартуюць, чым хлопцы. Але іх няшмат. На ўсё мястэчка дзесяці не набярэцца. Ходзяць тыя, хто мае сваякоў за мяжой.

Мы наблізіліся да рэстарацыі Гінты. Перад уваходам віраваў натоўп хлопцаў з бутэлькамі ў кішэнях і руках. Дзьверы ўсярэдзіну былі адчынены насьцеж: адтуль разам з парам і тытунёвым дымам далятаў шум галасоў і воклічы п'яных.

Да нас падышоў Шчур. Бліскаючы вачыма і паказваючы жоўтыя зубы з-пад тонкіх вусnaў, ён халоднымі касьцістымі пальцамі пацісьнуў нашыя далоні. І, сплёўваючы праз зубы на боты сялян, якія праходзілі побач нас, запытаў:

-- Да Гінтулькі... ці што?

-- Так.

-- І я з вамі.

Шчур выглядаў дзівакавата. На галаве ён меў вялікую амерыканскую клятчатую шапку, а на шыі па-турэцку завязаную чырвоную хусьцінку. Рукі заўсёды трымаў у кішэнях нагавіц. Ішоў ён перавальваючыся. Гэта быў растоўскі злодзей зь цёмным і бурным мінулым. Увесь парэзаны нажамі, сам ніколі з нажом не расставаўся. Ні разу не прамінуў ні адной бойкі, нават заведама прайгранай.

Мы ступілі на патанаючы ў балоце падворак і праз цёмныя, жахліва смуродныя сенцы апынуліся ў вялікім пакоі. Спачатку нічога ня мог разгледзець: усё зьнікала ў густым тытунёвым дыме. Ужо пазьней я заўважыў некалькі столікаў зь людзьмі. Былі гэта толькі перамытнікі.

Неспадзявана на процілеглым канцы залы зайграў гармонік, напаўняючы пакой гукамі старога расейскага марша. Гэтак гарманіст Антось -- малы чалавечак, неакрэсьленага ўзросту, зь зялёным тварам і раскудлачанымі ва ўсе бакі валасамі -- прывітаў уваход Трафіды.

-- Здароў, хлопцы! -- выгукнуў Юзік, абыходзячы столікі, вітаючыся з прысутнымі.

Антосю ён кінуў залатую пяцірублёўку. Гарманіст, не спыняючыся, спрытным рухам рукі злавіў яе ў паветры.

-- Гэта табе за марш, -- сказаў Трафіда.

Па яго прыкладу я абышоў столікі, пацiскаючы рукі перамытнікам. Даланю Маманта ня здолеў абхапіць, той жа не сціскаў яе, відавочна, баючыся, каб не пашкодзіць маю руку.

Перамытнікі ссунулі тры столікі і заставілі іх бутэлькамі зь півам і гарэлкай, талеркамі з кілбасой, хлебам і агуркамі.

Напачатку з нашай групы я ўгледзеў толькі Болека Лорда, Фэльку Маруду, Бульдога і Маманта.

Галоўнае месца за сталом займаў Болек Камета -- славуты перамытнік, мужчына гадоў пяцідзесяці, з доўгімі чорнымі вусамі. Гэта быў вядомы на ўсё пагранічча п'яніца і гуляка. Пазьней я даведаўся, што мянушку "Камета" той атрымаў вось зь якой нагоды: калі ў 1912 годзе на зямлю, "ішла" камета Галея і меўся адбыцца канец сьвету, ён на гэтай падставе прапіў і прагуляў усю сваю гаспадарку. Каля яго сядзеў Кітаец -- высокі, худы хлопец з жоўтым аблiччам і прыгожымі, крыху раскосымі, вачыма. Было яшчэ некалькі хлопцаў, але я пазнаёміўся зь імі бліжэй праз нейкі час.

-- Кажу і сьцьвярджаю, -- гаварыў Камета, вылупліваючы вочы і рухаючы вусамі, -- хто не п'е -- той не жыве, а гніе!

-- Мудра! -- ухваліў Лорд, ударам аб калені выбіваючы коркі адразу зь дзьвюх бутэлек.

Наліў гарэлку да палавіны шклянак.

Мамант, штосьці мармычучы і нахіляючы набок галаву, прысунуў да сябе шклянку і асьцярожна выпіў, нібы баючыся скрышыць у руцэ шкло. Выпіў гарэлку, хукнуў у паветра, а пасьля падміргнуў мне і нешта буркнуў. Я ніколі ня чуў, каб Мамант сказаў больш, чым адзін сказ. Звычайна абмяжоўваўся адным словам або жэстам рукі і падміргваньнем вока.

-- Ведаеце, хлопцы, -- адгукнуўся Кітаец, -- што мне сказаў Фэлік Маруда?

-- Што камбінуе, як венік зьесьці! -- ляпнуў Бульдог.

-- Не... ён сказаў, што гусь найдурнейшая птушка на сьвеце!

-- ?.. -- рухам далоні і ўзьнятымі ўгору брывамі запытаўся Мамант.

-- Бо... адной замала, а двух зашмат!.. Курэй, качак заўсёды можна дапасаваць: мала двух -- зьеш тры, мала трох -- упрэш чатырох, а з гусямі горш!

-- Напэўна, ты памыліўся, -- прагаварыў Шчур. -- Мусіць, гаворка ішла не пра птушкі, а пра цялушкі.

Не зьвяртаючы ўвагу на шпількі, Маруда, трушчачы зубамі косткі і аблізваючы пальцы, даводзіў гуся да парадку.

Болек Лорд выконваў абавязкі гаспадара. Ён прыносіў з буфета гарэлку і закуску, наліваў шклянкі гарэлкай і півам і, як умеў, бавіў хлопцаў. Не забываўся ён і пра музыку -- заносячы час ад часу Антосю гарэлку ў шклянцы і закуску. Набліжаючыся да яго, прыпяваў:

А насупраць пан Антоні:
Рыпцюм-пыпцюм на гармоні!
Ім-там турлю! Ім-там турлю!
Ім-там турлю! Уха-ха!

---

* Так у тэксце. Ня гледзячы на тое, што Ракаў у канцы XVIII ст. быў пазбаўлены гарадскога статуса, жыхары па традыцыі называлі яго горадам (заўвага перакладчыка).

---

**Працяг.**
**Пачатак у № 29—30.**

## *Пятру* ГЛЕБКУ СПОЎНІЛАСЯ Б 90...

**Пятро Глебка з таго трагічнага пакалення беларускіх пісьменнікаў, якія закладвалі падмурак сучаснай нашай літаратуры, многае ведалі і разумелі, але не ўсё маглі асэнсаваць і сказаць. У канцы свайго артыкула Эла Сабаленка зазначае, што біяграфію Пятра Глебкі варта было б прачытаць па-новаму, пра недасказанае сказаць.**

**Сялянскі хлопец з вёскі Вялікая Уса Уздзенскага раёна стаў вядомым пісьменнікам, вучоным, акадэмікам Акадэміі навук Беларусі.**

**Паэтычную творчасць пачаў у 1925 годзе. Вершы яго светлыя, натхнёныя і чалавечныя. Артыкулы П. Глебкі па мовазнаўству, гісторыі, філасофіі, фалькларыстыцы, мастацтвазнаўству не страцілі цікавасці і для сённяшніх даследчыкаў і проста людзей, якія шануюць сваю Бацькаўшчыну. Пра тое, якім чалавекам быў Пятро Глебка ўспамін у артыкуле, што друкуецца ніжэй.**



# УСПАМІНЫ ПРА НАСТАЎНІКА

Сёлета споўнілася б 90 гадоў Пятру Глебку. Ужо даўно ён пайшоў ад нас, але памяць пра яго жыве ў сэрцах тых людзей, што ведалі яго. Як сцвярджаюць філосафы, чалавек пасля сваёй фізічнай смерці экзістэнцыянальна працягвае жыць, пакуль яго помняць, пакуль яго любяць, пакуль ён займае месца ў жыцці іншых людзей. Таму пра Пятра Фёдаравіча хочацца пісаць як пра жывога.

У наш суровы, прагматычны, нешляхетны час усё часцей прыгадваюцца людзі кшталту Глебкі як спадзеў на светлае, чыстае, духоўнае. Выхадзец з вёскі, так бы мовіць, у першым пакаленні ад сахі, ён быў па натуры сваёй глыбока інтэлігентным чалавекам у поўным сэнсе гэтага слова. Усё жыццё напружана працуючы, Пятро Фёдаравіч набыў энцыклапедычныя веды, стаў сапраўдным эрудытам, акадэмікам не па наменклатуры, а па сутнасці і разам з тым не ператварыўся ў такога "мэтра", якіх у сценах акадэміі можна было сустрэць шмат, застаўся сціплым, інтэлігентным. Мне пашчасціла працаваць з гэтым чалавекам, блізка яго ведаць.

У снежні 1960 года я прыйшла ў Акадэмію навук уладкоўвацца на працу ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Апошняе слова -- прымуць мяне на работу ці не -- было за дырэктарам Пятром Глебкам. І таму, зразумела, я вельмі хвалявалася, калі сядзела ў прыёмнай і чакала сваёй чаргі. Хваляванне ўзмацнялася яшчэ тым, што Пятро Глебка быў для майго пакалення жывым класікам, творы якога мы вывучалі ў школе, універсітэце. Калі я зайшла ў кабінет, Пятро Фёдаравіч заўважыў маю збянтэжанасць і спакойна, па-бацькоўску, быццам мы даўнія знаёмыя, пачаў распытваць мяне пра асабістае жыццё, бацькоў, дзіця, а потым спакваля і пра мае навуковыя планы, высветліў, дзе і якую падрыхтоўку я атрымала, ці здолею працаваць у акадэмічным інстытуце. Але гаворка ішла ўжо так спакойна, вольна, што я не ўспрымала яе як іспыт і, можа, таму вытрымала яго паспяхова.

Працуючы ў інстытуце, я мела магчымасць бачыць Пятра Фёдаравіча амаль штодня. Не памятаю, каб калі-небудзь ён быў у сваім кабінеце адзін. Можна было адразу здагадацца, што ён на працы, па той чарзе, што ўтваралася каля яго кабінета, як толькі ён прыязджаў у інстытут. І тут заўсёды, акрамя нашых супрацоўнікаў, былі людзі з іншых інстытутаў, нават не з акадэміі. Яны ішлі да Пятра Фёдаравіча па параду, неслі пачытаць свае артыкулы, манаграфіі. Цяжка ўявіць, колькі рукапісаў перачытаў і не проста перачытаў, а прааналізаваў, выправіў Пятро Фёдаравіч. Відаць, з тых кніг і артыкулаў, што прайшлі праз яго рукі і ў якіх нідзе не ўпамінаецца нават імя Глебкі, можна было б скласці добрую бібліятэку. Не шкадаваў Пятро Фёдаравіч ні свайго часу, ні сваіх ведаў дзеля іншых людзей, раздаваў шчодра, безаглядна.

Асабліва многа даў ён супрацоўнікам свайго інстытута. Пятро Фёдаравіч дасканала ведаў гісторыю беларускага народа, яго культуру, народную і прафесіянальную, што дазваляла яму плённа кіраваць такой складанай, шматпрофільнай установай. Пры абмеркаванні самых розных навуковых праблем на Вучонай радзе інстытута звычайна самае ўзважанае, самае дакладнае слова ішло ад яго. Вучоныя любяць пагаварыць, і часам на пасяджэннях лілося столькі слоў, што цяжка было дабрацца да сутнасці. Пятро Фёдаравіч заўсёды выслухоўваў усіх. Бывала, чым больш выступае людзей, тым больш заблытваецца пытанне. Але вось апошняе слова старшыні рады. І аказвалася, што Пятро Фёдаравіч змог ухапіць галоўнае, сутнасць і ўсё паставіць на месца.

Найбольш часта сустракалася і размаўляла я з Пятром Фёдаравічам у той час, калі працавала над кандыдацкай дысертацыяй. Ён быў маім навуковым кіраўніком. Працаваць з ім было вельмі цікава. Столькі ведаў было перададзена, столькі думак падказана! Разам з тым Пятро Фёдаравіч з вялікай павагай ставіўся да чужых думак, незалежна ад таго, хто іх выказваў — доктар навук ці аспірант. Не было выпадку, каб Пятро Фёдаравіч спрабаваў навязаць каму-небудзь свае меркаванні (хаця колькі сваіх думак ён перадаў іншым людзям!). Але ён, як ніхто, умеў зрабіць гэта так далікатна, што субяседнік і не заўважаў і быў упэўнены, што ўдалая думка сама прыйшла яму ў галаву ў час размовы. Калі мы з Пятром Фёдаравічам абмяркоўвалі план маёй дысертацыі, ён вельмі далікатна, вельмі тонка падказваў, здавалася на першы погляд, і не надта важныя дэталі. Ды і сам быццам не надаваў ім асаблівага значэння. Стваралася ўражанне, што ён проста разважае з субяседнікам на цікавую для абодвух тэму. Але потым, калі я ўжо шчыльна занялася сваёй работай, пачала пісаць, зразумела, што менавіта Пятро Фёдаравіч так непрыкметна і тактоўна вызначыў асноўны напрамак майго даследавання, падказаў структуру, галоўныя палажэнні.

Працаваць з Пятром Фёдаравічам было і лёгка, і цяжка. Лёгка таму, што ён даваў поўную свабоду дзеяння, давяраў сваім падапечным, не дапускаў ніякай дробязнай рэгламентацыі, як гэта часта рабілі іншыя навуковыя кіраўнікі. Адным словам, гэта быў такі кіраўнік, які "кіраваць кіраваў, ды не вельмі тузаў". Вялікай падмогай для аспірантаў Пятра Фёдаравіча было і тое, што калі ўжо кіраўнік прачытаў тваю работу і ўхваліў, можна было быць упэўненым, што ніякай лухты і глупства там няма. Спрыяў у працы і агульнапрызнаны аўтарытэт Глебкі, на які можна было абапірацца, каб не зважаць на недарэчныя, часам проста анекдатычныя заўвагі і патрабаванні некаторых высокапастаўленых апанентаў. Памятаю, як адзін "дужа вострапалітычны", як ён сам сябе характарызаваў, таварыш, што меў немалую ўладу ў сектары, дзе я працавала, вырашыў надаць палітычнае гучанне маёй рабоце. Пры абмеркаванні раздзела дысертацыі, прысвечанай этнаграфічнай спадчыне Якуба Коласа, ён катэгарычна патрабаваў, каб я "коласаўскія блінцы, якія пякліся на сняданне, працягнула да камунізму". Я спрабавала даказваць, што пішу пра агульначалавечы характар каштоўнасцей беларускай традыцыйнай культуры, але ён патрабаваў падкрэсліць класавы характар гэтай культуры і абавязкова звязаць яе з камунізмам. З-за гэтых папрокаў раздзел нават быў адхілены. Я разумела, што пераканаць свайго апанента не змагу, але не змагу і "блінцы цягнуць да камунізму". Прыйшлося ісці за дапамогай да Пятра Фёдаравіча. Ён доўга і шчыра смяяўся з гэтых заўваг, а потым параіў нічога не правіць, а пры наступным абмеркаванні спасылацца на тое, што кіраўнік супраць такой вульгарнай палітызацыі. Спрацавала, і ад мяне адчапіліся з блінцамі. Каб не аўтарытэт Глебкі, гэтая сітуацыя магла ператварыцца ў сапраўдную праблему.

Безумоўна, Пятро Фёдаравіч быў чалавекам свайго часу, і сёння не варта яго выстаўляць нейкім змагаром з камуністычнай ідэалогіяй. Чаго не было, таго не было. Але і вульгарным, аглабельным палітыканам ён таксама ніколі не быў. Ён умеў мякка, непрыкметна прыглушыць палітычны раж многіх ваяўнічых камуністаў у інстытуце. У той час і гэта было нечага варта.

Працаваць з Пятром Фёдаравічам, як я ўжо казала, было і цяжка, таму што ён быў заўсёды дужа заняты. Людзі знаходзілі яго ў інстытуце, дома, нават у выхадныя і святочныя дні прыязджалі да яго на дачу. І прасілі прачытаць, адрэдагаваць, адрэцэнзаваць, дапамагчы. А Пятро Фёдаравіч не мог адмовіць. Таму часта здаралася, што ў дзень, калі мы дамаўляліся пагаварыць пра маю работу і я прыходзіла да Пятра Фёдаравіча, ён з жалем паведамляў, што не змог прачытаць работу, бо нехта знайшоў яго на дачы і два выхадныя прыйшлося чытаць і правіць тую работу, кіраўніком якой быў зусім іншы чалавек.

Ускладняла лёс глебкаўскіх аспірантаў і тое, што ён быў не дужа практычны, "непрабіўны", як цяпер кажуць, чалавек. Таму ўвесь арганізацыйны цяжар па абароне клаўся на плечы саміх аспірантаў. Іншыя кіраўнікі, як танкі, прабівалі дарогу сваім падапечным, а Пятро Фёдаравіч прынцыпова адмаўляўся займацца якім-небудзь "прапіхваннем" сваіх. І дзякуй яму за гэта. Акрамя навуковага, ён даваў нам і вялікі маральны ўрок.

І яшчэ хочацца сказаць пра адну асаблівасць Пятра Фёдаравіча, якая выразна сведчыць пра яго інтэлігентнасць, далікатнасць. Ён ніколі нікому не загадваў: ні свайму намесніку, ні машыністцы. Ён прасіў. Калі трэба было сустрэцца, ён заўсёды пытаўся, ці змагу я прыйсці ў такі і такі дзень, ці зручна для мяне гэта. Аднойчы ў час нашай такой размовы ў кабінет да Пятра Фёдаравіча зайшоў яго намеснік і мой непасрэдны начальнік, чалавек, законы субардынацыі для якога былі святыняй. Ён абурыўся, як гэта кіраўнік, дырэктар інстытута пытаецца ў нейкай аспіранткі, ці зможа яна прыйсці. На яго думку, аспірант у любы час дня і ночы павінен з'явіцца, як салдат, па загаду кіраўніка. Пятро Фёдаравіч выслухаў з усмешкай гэтую тыраду і зноў мякка спытаў, дык ці змагу я прыйсці да яго ў прызначаны час.

Нягледзячы на сваю шляхетнасць і далікатнасць, Пятро Фёдаравіч быў чалавекам прынцыповым, смелым, непахісным. Пра гэта сведчаць многія старонкі яго досыць трагічнай біяграфіі, якую, я думаю, сёння варта было б прачытаць па-новаму.

**Эла САБАЛЕНКА.**

## ПАДТРЫМКА З БЕЛАРУСІ... ЯСЕНІНУ

Дарэчы, не першая... Як вядома, першыя публікацыі мала каму вядомага, на той час Сяргея Ясеніна трапілі ў поле зроку не каго-небудзь, а выхадца з Капыля, знакамітага даследчыка, крытыка, публіцыста Л. Клейнбарта. Леў Максімавіч пазней успамінаў: "Па парадзе С.М. Кашкарава, у якога ён жыў, Ясенін і сам пераслаў мне сшытак сваіх вершаў. Ён пісаў мне, што родам з вёскі Разанскай губерні, што ў Маскве з 1912 года працуе ў друкарні Сыціна, што пачаў ён з частушак, затым перайшоў на вершы". Дзякуючы падтрымцы Л. Клейнбарта і пабачыла свет кніга С. Ясеніна "Радуница". А падтрымка, пра якую ідзе гаворка цяпер, адбылася зусім нядаўна. Набліжаецца 100-годдзе з дня нараджэння вялікага рускага паэта. Вось і вырашылі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" парадаваць прыхільнікаў яго таленту. Выйшаў двухтомнік выбраных твораў паэта. З густам афармлены, з прадмовай вядомага даследчыка творчасці С. Ясеніна Ю. Прокушава. Гэтаму застаецца толькі парадавацца. І не лішне нагадаць, што некалькі гадоў назад тая ж "Мастацкая літаратура" выпусціла двухтомнік А.С. Пушкіна.

## БУДУЧЫЯ ЗОРКІ

Яшчэ нікому раней не даводзілася пачуць у адным канцэрце класічнай музыкі ўсіх выдатных маладых выканаўцаў Беларусі.

Нядаўна ў канцэртнай зале Беларускай акадэміі музыкі адбыўся нацыянальны фінал міжнароднага конкурсу "Музыка і песні краін Усходняй Еўропы", які праводзіцца сусветна вядомай фірмай "Мотарола" ў Беларусі, Расіі, Польшчы, Венгрыі, Латвіі, Чэшскай Рэспубліцы, на Украіне. Мэта конкурсу — адкрыць і заахвоціць выдатнае выканаўчае майстэрства. Мала хто ведае, што Беларусь валодае унікальнымі талентамі, кожны з якіх зрабіў бы гонар любой сусветнай дзяржаве. Юрый Бліноў, Ганна Шыбаева, Сяргей Смірноў, Андрэй Кавалінскі, Мікаэл Самсонаў, Андрэй Паначэўны і іншыя віртуозы выклікалі фурор на міжнародных выступленнях, усе яны -- лаўрэаты прэстыжных конкурсаў. І мала хто ведае, якой цаной дастаецца ім кожны шанц паказаць сваё майстэрства свету. На канцэрт былі запрошаны высокапастаўленыя чыноўнікі, бізнесмены, моцныя свету гэтага, якія прымаюць рашэнні. Ці зменіцца што-небудзь пасля праслухоўвання ў лёсе маладых віртуозаў, кожны з якіх мог бы садзейнічаць іміджу краіны Беларусі як адукаванай краіны высокаадораных людзей.

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# НІХТО НЕ ЗАБІЎ У ЗВАНЫ

Практычна цалкам на карысць рускай культуры на Беларусі працавалі яе кінатэатры. Толькі ў рэдкіх выпадках на іх экранах ішлі дубліраваныя на беларускую мову мастацкія фільмы. У дэбеларусізацыі нашай нацыянальнай культуры ніводзін від мастацтва не адыграў такой адмоўнай ролі, як кіно, якое яшчэ і зараз стаіць упоперак нашага Адраджэння, з'ядаючы вялікія грошы з дзяржаўнага бюджэту ў інтарэсах рускай культуры на Беларусі.

Гэта велізарная трагедыя, што тагачасныя партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, прадстаўнікі навуковай і творчай інтэлігенцыі не разгледзелі ці не жадалі разгледзець, якую ўжо паспела прынесці шкоду нашаму народу дэбеларусізацыя яго нацыянальна-духоўнага патэнцыялу.

Зусім не робіць гонару і не апраўдвае той часткі палітыкаў і інтэлігенцыі, якія бачылі гэтую пагрозу, але маўчалі, бяздзейнічалі, лічачы, што так спакайней будзе жыць, што замоўчванне, а ў нярэдкіх выпадках апраўданне заганаў ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі забяспечыць ім хуткі рост па службовай лесвіцы.

Перыяд з мая 1945 па сакавік 1953 г. быў адным з самых неспрыяльных у нацыянальна-духоўным развіцці беларускага народа. Менавіта на апошнім этапе сталіншчыны на ніве духоўнай культуры рэспублікі пачалі па ініцыятыве, пры актыўнам садзеянні высокіх партыйна-дзяржаўных структур, як ніколі раней, у самых шырокіх маштабах, планамерна і мэтанакіравана ўкараняць рускую культуру. Гэта была вялікая памылка, бо, як сведчыць сусветны вопыт, на адной і той жа тэрыторыі нармальна можа развівацца, не зведваючы асіміляцыі, толькі адна культура. У нашым выпадку -- беларуская, паколькі тут, а не дзе-небудзь у іншым месцы, яе гістарычная, этнічная тэрыторыя. Механічнае, адміністрацыйнае насаджэнне рускай культуры ў пасляваеннай Беларусі прывяло да шкоднай, непатрэбнай канкурэнцыі, саперніцтва паміж першай і беларускай, бо адбывалася ж гэта на яе законнай тэрыторыі.

Дасягнуўшы прыкметнага поспеху ў эканамічным жыцці і культуры ўвогуле, пэўныя пласты беларускага народа, самі таго не разумеючы, пачалі пад уздзеяннем адпаведнай ідэалагічнай апрацоўкі і па віне партыйна-дзяржаўных дзеячаў, найперш рэспубліканскага маштабу, рабіць вельмі небяспечны адыход ад нацыянальных традыцый. У выніку стварыліся не толькі надзвычай спрыяльныя ўмовы для правядзення рускай культурна-моўнай асіміляцыі карэннага насельніцтва нашага краю, але яна ўжо нават стала неабвержнай рэальнасцю для значнай колькасці гарадскіх жыхароў. Такая ступень дэбеларусізацыі давала важкія падставы забіць трывогу, неадкладна звярнуцца да самых рашучых захадаў па ўхіленні памылак і хібаў нацыянальнай палітыкі на Беларусі. Але ніхто так і не забіў у званы. Толькі смерць Сталіна ў сакавіку 1953 г. магчыма ў каго-небудзь з нашых людзей зарадзіла надзею, што цяпер нарэшце распачнецца самая сур'ёзная барацьба з дэбеларусізацыяй дзеля выратавання беларускага народа як самабытнай этнічнай супольнасці ад немінучай пагібелі, што пры ўсеагульным бяздзеянні і пагалоўнай маўклівасці магла б напаткаць яго ўжо і не ў такой далёкай будучыні.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

*НЕЗВЫЧАЙНЫ БЕЛАРУС XX СТАГОДДЗЯ*

# "БАЦЬКА ГЕНАДЗЬ"

*Сын беларускае зямлі,*
*Юнак з душой паэта,*
*Вы нашу песню праняслі*
*Па ўсіх кутках планеты.*

**Рыгор Барадулін.**

Пачатак гібелі дыктатуры і таталітарызму, "імперыі зла" на пачатку 50-х гадоў даў першы імпульс нацыянальнаму Адраджэнню беларусаў, калі і ўзніклі калектывы Шырмы і Цітовіча, а з сярэдзіны 50-х гадоў пачалі з'яўляцца ў друку іх фундаментальныя, назапашаныя яшчэ ў Заходняй Беларусі зборы родных песень. Іменна з гэтага часу сусветную вядомасць атрымлівае імя высокаадукаванага, таленавітага сына беларускага народа Генадзя Цітовіча.

Са створаным з выдатных народных спевакоў у 1952 годзе Дзяржаўным народным хорам Беларусі ён прайшоў да 1974 года вялікі творчы шлях. Спевакі хору ў канцы жартаўліва падлічылі, што яны ці то 12, ці то 15 разоў аб'ехалі вакол нашай Зямлі.

Першы вялікі поспех быў ужо ў лютым 1955 года на Другой дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве, пасля якога Генадзь Цітовіч атрымаў званне народнага артыста Беларусі.

З гэтага часу пачалася інтэнсіўная канцэртная дзейнасць хору на ўсёй тэрыторыі Беларусі, потым паездкі ў Прыбалтыку, Крым, Сярэднюю Азію, на Украіну, Урал, Каўказ, пазней – у Польшчу, Францыю, Венгрыю, Балгарыю, Фінляндыю, Румынію, ФРГ, Канаду. І ўсюды вялікі поспех, гром апладысментаў, прызнанне і вызначэнне калектыву як жамчужыны нацыянальнага мастацтва.

На сцэне кіраўніка Цітовіча няма. Непрыкметным рухам, позіркам ён кіруе з залы.

-- Я навучыўся гэтай манеры, -- тлумачыў ён аўтару гэтых радкоў, -- калі назіраў за запявалами, якія паказвалі ўступ, і за падгалоскамі, якія фіксавалі канцоўку. Магчыма, тут адыграла ролю тое, што я скончыў не дырыжорскі, а музыказнаўча-тэарэтычны факультэт кансерваторыі.

Жаночая група хору выступае і асобна, і ў 1957 годзе атрымлівае дыпломы першай ступені і залатыя медалі ўсесаюзнага і сусветнага фестываляў моладзі ў Маскве.

Не забыў Генадзь Цітовіч і свой заходнебеларускі мужчынскі квартэт "Баян", але цяпер гэта ўжо выдатны (неўзабаве ён становіцца шырока вядомым) жаночы квартэт "Купалінка". На міжнародным фестывалі ў Балгарыі ў 1968 годзе квартэт атрымлівае Вялікі залаты медаль, і ў тым жа годзе мастацкаму кіраўніку Дзяржаўнага народнага хору Беларусі надаецца званне народнага артыста СССР.

Вельмі інтэнсіўная канцэртная дзейнасць, ледзь не пастаянныя гастрольныя паездкі не даюць магчымасці энцыклапедычна адукаванаму музыказнаўцу-фалькларысту заняцца грунтоўнай навуковай дзейнасцю, без якой ён не ўяўляў свайго жыцця. Таму з болем у душы ён прымае ў 1974 годзе рашэнне развітацца са сваім любімым дзецішчам, чаго ніхто тады нават уявіць сабе не мог, бо ўсе лічылі, што без Цітовіча хор не зможа існаваць. Але ён думаў інакш. Калі ў яго спыталі, як ён адважыўся на гэта, Цітовіч адказаў:

-- Гэта было вельмі нялёгкай справай, бо калектыў стаў мне раднейшым за родных дачок. Але ж для кожнага бацькі надыходзіць момант, калі любімае дзіця трэба аддаваць замуж. Ну а "зяця" для хору я сам і падрыхтаваў. Міхася Дрынеўскага лічу сваім вучнем, бо ён працаваў у нас хормайстрам на працягу шасці гадоў. І ўсведамленне таго, што хор трапіць у надзейныя рукі, а я атрымаю магчымасць заняцца навуковай дзейнасцю (у гэты час ён якраз заканчваў працу над другім выданнем сваёй асноўнай працы "Анталогія беларускай народнай песні" -- **В.Л.**), змякчае горыч майго расставання з калектывам.

Вось такі ён, "бацька Генадзь"! І падрыхтаваў, і адышоў своечасова. Знайдзіце, дарагія чытачы, кіраўніка, які б так высакародна зрабіў усё па-людску. І таму словы яго аказаліся прарочымі. "Зяць" Міхась Дрынеўскі апраўдаў надзеі "цесця", паказаў сябе дасканалым майстрам, дастойным пераемнікам свайго вялікага настаўніка і годна ўзначальвае цяпер ужо Дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Генадзя Цітовіча, прадаўжае яго лепшыя мастацкія традыцыі.

"Бацькам Генадзем" як роднага, блізкага чалавека Цітовіча любоўна называлі ў многіх фальклорных, харавых і іншых самадзейных калектывах, бо з 1939 года, пачынаючы з калектыву Вялікага Падлесся, ён іх шчыра апякаў, быў бескарыслівым і высокакваліфікаваным кансультантам. У Азерышчыне і Дзяляцічах, Карэлічах і Любчы, Морачы і Століне, Кажан-Гарадку і Стоўбцах, Тураве ён быў частым госцем і яшчэ ў многіх вёсках, мястэчках і гарадах.

Дзверы яго кватэры, як ён жартаваў, на Казлабродскай, 9 (была Даўгабродская, а цяпер Казлова) не зачыняліся ад "спевакіраўнікоў" фальклорных і харавых калектываў, майстроў. Здзіўляюся, як гэта ўсё спакойна вытрымлівала жонка Вольга Мацвееўна, але з ёю Цітовічу вельмі пашанцавала, і ён яе, сваю Воленьку, бясконца любіў. Яна не толькі стойка вытрымлівала гэта, але і выключна дапамагала маэстра, бо ўсе хатнія клопаты ўзяла на сябе.

Прадметам асаблівай увагі Цітовіча былі таленавітыя кампазітары з народа, якія не мелі адпаведнай прафесійнай падрыхтоўкі. Яшчэ ў Баранавічах у 1939 годзе ён запісаў жамчужыну "Любы зоры залацістыя" Рыгора Галавасцікава. Хутка да яго дабавіліся Пятро Шэўка, Павел Шыдлоўскі, Мікола Вайцяхоўскі і дзесяткі іншых, якіх ён кансультаваў, рабіў нотныя запісы, рэдагаваў, дапамагаў выдаць, атрымаць адукацыю, збіраў на семінары.

Усё ж сапраўдны вучоны Цітовіч разумеў, што галоўнае ў жыцці -- гэта сабраць, даследаваць і выдаць з мелодыямі народныя песні, каб выратаваць іх ад забыцця. І, бласлаўлёны яшчэ ў 1932 годзе славутымі Казімірам Машынскім і Філарэтам Калесай у Хорастава на свой першы запіс, ён да вайны абышоў, праплыў на плытах і чаўнах па ўсёй Заходняй Беларусі і сабраў каля тысячы песень. Але яны, на вялікі жаль, загінулі ў полымі вайны.

Спрабаваў запісваць на фанограф, але спяваць у трубу спевакі баяліся, таму пасля заканчэння кансерваторыі стаў хутка і дакладна, кваліфікавана запісваць на слых (ён казаў "браў на вуха"). Таму спевакоў затрымліваў ненадоўга. Пасля вайны не толькі аднаўляў уласныя старыя запісы, але пашырыў свае вандроўкі на ўсю тэрыторыю Беларусі, наведаў паступова ўсе раёны, стараўся зафіксаваць найбольш характэрныя для гэтай мясцовасці творы ў лепшых узорах ад таленавітых спевакоў. Цэлую кнігу анекдатычных выпадкаў можна было б скласці з яго вандровак: і арыштоўвалі як шпіёна, і гублялі з высокай машыны, і перакульваліся на чаўне. На цвёрдай лаўцы ва "ўсяходзе" (бо ездзілі па пінскіх балотах) майго дзядзькі, цярплівы, так збіў "сядло", што паўдня потым адмочваў яго... Але ўвесь час жартаваў, кпіў з сябе, быў вясёлы, няўрымслівы і высокакваліфікаваны, лёгка вышукваў і запісваў народныя песні. Ужо напрыканцы 60-х гадоў яго збор налічваў каля 3 000 лепшых узораў беларускіх народных песень з мелодыямі. Смела можна сцвярджаць, што Цітовіч і Шырма ў апошні момант зафіксавалі, выратавалі багатую мелодыку беларускай народнай песні. Цяпер мы хоць і запісваем па-ранейшаму многа песенных мелодый, але гэта ўжо крышку спрошчаныя мелодыі, асабліва, скажам, такія складаныя, як жніўныя.

Высокая навуковая кваліфікацыя, эрудыцыя і багатая збіральніцкая практыка давалі Цітовічу магчымасць імгненна пазнаваць і прадумана фіксаваць найбольш цікавыя ў навуковых і каштоўныя ў мастацкіх адносінах песенныя ўзоры. Пры гэтым ён валодаў выдатнай тэхнікай і методыкай запісу музычнага матэрыялу, на слых, хоць у апошнія дзесяцігоддзі для большай хуткасці запісу карыстаўся магнітафонам. Але прызнаваўся, што ўсё ж "браць на вуха" яму цікавей, бо бачыш выканаўцу, адчуваеш яго душу, бачыш яго ці яе вочы. Мне пашчасціла прысутнічаць, калі ён запісваў у апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця. Гэта незабыўныя ўрокі!

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№21, 22, 25—26, 27.**

**НА ЗДЫМКУ: Генадзь ЦІТОВІЧ са студэнтамі на фальклорнай практыцы.**

# СТРАСЦІ ПА ЖЫЦЦЮ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Доўгі час прабыўшы на перыферыі грамадскай увагі яна, гісторыя, выходзіць у цэнтр увагі вядучых мастакоў Беларусі. Успомнім нядаўнія спектаклі ў купалаўцаў, у тэатры "Новая сцэна", у беларускай оперы. Прэм'еру балета кампазітара Андрэя Мдзівані і аўтара лібрэта і харэаграфіі Валянціна Елізар'ева "Страсці" ("Рагнеда") чакалі з нецярпеннем, спадзеючыся ўбачыць грандыёзнае сцэнічнае відовішча, багатае мастакоўскімі адкрыццямі.

І не памыліліся. Музыка Андрэя Мдзівані, узмоцненая фрагментамі ў высокапрафесійным гучанні хору, тэмпераментнай трактоўкай музычнага кіраўніка і дырыжора Генадзя Праваторава адразу ўводзіць нас у свет, поўны варожасці, інтрыг і міжусобіц. Нездарма ж і сам спектакль названы -- "Страсці".

На сцэне віруюць страсці -- палітычныя, духоўныя, рэлігійныя. Менавіта ў агні тых страсцей спальваецца жыццё гордай полацкай князёўны, той, што на зары свайго юнацтва адмовіла князю Наўгародскаму Уладзіміру "не хочучы, розути робынича, но хочу за Ярополка". Не дараваў наўгародскі князь, сын рабыні, крыўды. Пайшоў на Полацк вайною, спаліў яго, забіў бацьку князёўны, а саму, згвалціўшы на людзях, узяў за жонку.

Гісторыя маўчыць, ці было гэта вялікае каханне Уладзіміра, у далейшым — Уладзімір Яснае Сонейка, князь Кіеўскі, хрысціцель Русі, або кіравала ім такая ж вялікая крыўда.

Але ж у спектаклі процістаянне Рагнеды і Уладзіміра стала галоўнай лініяй спектакля. Бліскучая харэаграфія Елізар'ева, як заўжды глыбока філасофская, дае магчымасць выдатным нашым танцоўшчыкам Інесе Душкевіч (Рагнеда) і Веніяміну Захараву (Уладзімір) стварыць неардынарныя, шматзначныя, страсныя характары. Асабліва ўражваюць так званыя масавыя сцэны, як заўжды ў Елізар'ева не толькі эфектныя, пяшчотна выразныя, але дакладна нанізаныя на галоўную ідэю твора.

Задумаемся, чаму новы балет беларускіх мастакоў так хвалюе, чаму забываешся на тое, што падзеі спектакля аддалены ад нас у гістарычным часе на некалькі стагоддзяў. Ды таму, што "Страсці" гэтыя па нашаму часу, што спектакль пра нас, аб нашым жыцці, раздзёртым процістаяннем, варожасцю. І галоўны пафас новага твора беларускага балета -- заклік да нас: людзі спыніцеся, не дайце цёмным страсцям загубіць жыццё. Нездарма ў эпіграф спектакля вынесены словы апостала Паўла: "Более же всего имейте усердную любовь друг ко другу, потому что любовь покрывает множество грехов".

**Тамара АБАКУМОЎСКАЯ.**

**Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА.**



# БАГДАНОВІЧ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Класік нашай літаратуры Максім Багдановіч пакінуў пасля сябе не так і шмат твораў, адрасаваных спецыяльна дзеткам. Асаблівае месца сярод іх займае паэма "Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык", напісаная займальна, дасціпна. Нядаўна выдавецтва "Юнацтва" парупілася, каб малышы маглі пазнаёміцца з гэтым цікавым творам. Паэма выпушчана асобнай кніжкай. А выдадзена яна так, што з паэмай-казкай М.Багдановіча з задавальненнем змогуць пазнаёміцца як тыя, хто добра ведае родную мову, так і хлопчыкі і дзяўчынкі, у якіх з засваеннем яе ўзнікаюць пэўныя цяжкасці: тэкст пададзены не толькі ў арыгінале, а і ў перакладзе на рускую мову, зробленым І.Бурсавым.

*СТАРОНКІ "ВІЦЕБСКАГА АЛЬБОМА"*

# У СТАРОЙ РАТУШЫ

Першая драўляная ратуша ў Віцебску была ўзведзена ў 1597 годзе пасля надання гораду каралём Жыгімонтам III прывілея на магдэбургскае права. Згаданы дакумент вызваляў віцяблян ад шматлікіх павіннасцяў, суда і ўлады ваяводаў ды старастаў, а таксама даваў ім магчымасць рэгуляваць усё гарадское жыццё паводле ўласнай сістэмы юрыдычных нормаў. Своеасаблівым сімвалам незалежнасці Віцебска стаў будынак ратушы, у якім ладзіў свае пасяджэнні абраны гараджанамі орган самакіравання -- магістрат.

Мураваная ратуша была ўзведзена ў горадзе ў 1775 годзе. У яе архітэктурным абліччы спалучыліся рысы барока, што праявіліся ў дэкоры і аб'ёмнай кампазіцыі вежы, і класіцызму, якімі характарызуецца корпус пабудовы. Пасля скасавання ў беларускіх гарадах магдэбургскага права, учыненага Кацярынай II, будынак выкарыстоўваўся ў розных мэтах. На пачатку XIX ст. на яго вежы размяшчалася пляцоўка пажарнай каманды, унутры -- гарадская дума і ўправа, а пазней — яшчэ і паліцэйскае ўпраўленне. У 1911 г. гарадской упраўай над асноўным аб'ёмам ратушы быў надбудаваны трэці паверх.

Пасля стварэння ў 1924 г. Віцебскага аддзялення Беларускага дзяржаўнага музея будынак ратушы быў перададзены ў ягонае карыстанне. Абласны краязнаўчы музей размяшчаецца тут і зараз. На сённяшні дзень музейны збор налічвае больш за 150 тысяч прадметаў. Аснову калекцыі ў свой час склалі прыватныя зборы віцебскіх краязнаўцаў і мясцовых грамадскіх арганізацый мяжы XIX і XX стагоддзяў.

Адметнае месца сярод іх займае калекцыя вядомага віцебскага адваката Вацлава Федаровіча (1848--1911). У яе склад уваходзіла каля 6 тысяч прадметаў, сярод якіх былі археалагічныя знаходкі, разнастайная зброя, манеты, медалі, кафля, творы дэкаратыўна-ўжыткавага мастацтва, старадаўнія граматы, дакументы, кнігі. Асобную самастойную калекцыю ў зборы В. Федаровіча складалі масонскія знакі, пячаткі і іншая атрыбутыка. "Раздзел масонскіх помнікаў уяўляе вялікую цікавасць як па рэдкасці аналагічных збораў, так і па паўнаце, і цалкам прыдатны для навуковай апрацоўкі", -- пісаў у 1923 годзе музеязнаўца У. Краснянскі. Практычна толькі зараз наведвальнікі музея маюць магчымасць пазнаёміцца з гэтым зборам на спецыяльна арганізаванай выставе, бо ў савецкі час масонская калекцыя Вацлава Федаровіча амаль не экспанавалася.

Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.







НА ЗДЫМКАХ: будынак ратушы ў Віцебску; фрагменты экспазіцыі і экспанаты выставы "Масонская калекцыя Вацлава Федаровіча".

Фота Віктара СТАВЕРА.

*СПОРТ*

## ТАК БЫ І ДАЛЕЙ

У Гётэборгу праходзіць пятае першынство свету па лёгкай атлетыцы. Даволі вялікай камандай прадстаўлена на ім зборная Беларусі. А выступаюць нашы землякі ўдала.

Першы медаль, сярэбраны, дастаўся кідальніку молата Ігару Астапковічу. Пасля з'явілася ў нас і "бронза". Гэта Яўген Місюля змог стаць прызёрам у хадзьбе на 20 кіламетраў. І, нарэшце, сябры па камандзе горача павіншавалі кідальніцу кап'я Наталлю Шыкаленка, якая не пакінула ніякіх шанцаў сваім саперніцам: 67 метраў 56 сантыметраў. Не падвёў і дзесяціборац Эдуард Хемелайнен, ён заняў другое месца.

Калі падвесці вынікі першых дзён першынства свету па лёгкай атлетыцы, то зборная Беларусі па колькасці ўзнагарод не ўступае нават камандзе Расіі.

## З РОЗНЫМІ ШАНЦАМІ

Беларускія аматары шашак з цікавасцю сочаць за паядынкамі землякоў Аляксандра Балякіна і Анатоля Гантварга адпаведна з сенегальцам Басіру Ба і расіянінам Аляксандрам Шварцманам за званне чэмпіёна свету.

Хаця, на думку спецыялістаў, у Балякіна больш шанцаў прабіцца ў фінал, чым у Гантварга. І на самай справе, пасля першых нічыіх сенегалец прайграе Аляксандру. Два ачкі ўступае Шварцману і Гантварг. Пасля першай палавіны матча аднолькавы лік 6:4 на карысць Балякіна і Шварцмана. Другі тур пройдзе ў Галандыі.

8-тысячны скачок з парашутам на вачах соцень віцяблян, што сабраліся адзначыць Дзень паветрана-дэсантных войск Рэспублікі Беларусь на гарадскім стадыёне "Дынама", здзейсніла гвардыі старшы сяржант звыштэрміновай службы Галіна Раковіч. Гэта яшчэ адна вяха ў біяграфіі славутай беларускай спартсменкі, майстра спорту міжнароднага класа, чэмпіёнкі рэспублікі, Савецкага Саюза і свету па парашутнаму спорту. Дарэчы, Галіна Раковіч -- адзіная ў Беларусі спартсменка, у якой на рахунку такая колькасць скачкоў. Пасля прызямлення ёй тут жа на стадыёне былі ўручаны памятны адрас і жывыя кветкі.



НА ЗДЫМКУ: Галіна РАКОВІЧ пасля юбілейнага скачка.

Фота А. ХІТРОВА.

## ДРУГІ ЗБОРНІК НЯСВІЖСКІХ АЎТАРАЎ

Год назад у Нясвіжскай узбуйненай друкарні пабачыў свет літаратурны альманах "Пяром і сэрцам з Нясвіжа", падрыхтаваны аддзелам культуры райвыканкома і раённай арганізацыяй Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. А сёлета аматары мастацкага слова атрымалі магчымасць набыць новы зборнік "Нясвіжскія вытокі", у якім змешчаны паэтычныя творы дзевяці мясцовых аўтараў.

Уступны артыкул да выдання напісаў лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А.Куляшова Мікола Маляўка, які, дарэчы, некаторы час працаваў на Нясвіжчыне. З цікавасцю чытаюцца вершы Міхася Сазончыка, Міхася Валасевіча, Івана Пракарыны, Міхася Валько, Віталя Барадзіна. Хочацца верыць, што ўсе яны знойдуць свайго чытача.

## У ФОНД ПАДТРЫМКІ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"

**НАВУМЧЫК Ю. (ЗША) --- 50 дол. ам.**
**ЦЕЛЕШ А. (ЗША) -- 30 дол. ам.**
**КРЫСЮК Л. (Украіна) -- 50 тыс. руб. бел.**
**РЫМША Е. (Канада) -- 120 дол. кан.**

**Шчыра дзякуем нашым ахвярадаўцам.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма") .



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 3086. Падпісана да друку 14. 8.1995 г.